ГОД V ВЕРАСЕНЬ-КАСТРЫЧНІК № 5 (44)
1951 г.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

ДВУМЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЕ РЭЛІГІЙНАЕ ДУМКІ

---

## ЗЬМЕСТ



« SUR LA VOIE DIVINE »

BULLETIN RELIGIEUX BIELORUSSIEN BIMESTRIEL

Année V. N° 5 (44) Septembre-Octobre 1951

51, rue des Sts-Pères — PARIS - VIe

**Перадплата «Божым Шляхам» на 1951 г.**

| | За адзін нумар | На год |
|---|---|---|
| Францыя | 50 фр. | 300 фр. |
| Англія | 1 ш. 5 пэн. | 7 шыл. |
| Аргэнтына | 2 пэз. | 10 пэз. |
| Аўстралія | 1 ш. 10 пэн. | 9 шыл. |
| З. Ш. А. | 20 цэн. | 1 дал. |
| Бэльгія | 8 б. фр. | 45 б. фр. |
| Данія | 1 д. кар. | 6 д. кар. |
| Канада | 20 цэн. | 1 дал. |
| Нямеччына | 70 пф. | 4 н. м. |
| Швэцыя | 1 ш. кар. | 6 ш. кар. |

Грошы слаць на адрасы:

У ФРАНЦЫІ:

Chèque Postale : Paris c. 6287 44
R. P. Horosko Leo. 95, rue de Sèvres, PARIS VIe.

У АНГЛІІ:

Rev. dr. C. Sipovic, Marian House, Holden Avenue, LONDON N. 12.

У АРГЭНТЫНЕ:
Sr. Juzefovic Henryk, Calle Irala 1510 Dock Sud, BUENOS AIRES.

У АЎСТРАЛІІ:
Mr. Jackievicz Donat, 60, Fisher Str. East BRISBANE, Q-ld.

У БЭЛЬГІІ:
Mr. Vostrykau Michel, 19, Place Hoover, LOUVAIN.

У НЯМЕЧЧЫНЕ: Weissruthenischer Caritasdienst in Deutschland. (20b) Goslar/Harz, Sommerwohlenstrasse 1 A.

**КНІЖКІ ДА НАБЫЦЬЦЯ.**

У Беларускіх Каталіцкіх Місіях у Лёндане і Парыжы можна купіць наступныя беларускія кніжкі:

Друя В. — Ты і яна. 250 фр — 6 шыл.
а. Л. Гарошка — Душа 40 фр. — 1 шыл.
а Л. Гарошка — Паходжаньне чалавека 20 фр. — 10 пэн.
а. Л. Гарошка — Сьв. Еўфрасіня — Прадслава Полацкая 130 фр.— 3 шыл.
Г-і Я. — Наша Краіна. Літаратурная чытанка 300 фр. — 6 шыл. 10 пэн.
Г-і Я. — Казкі № 2 — 30 фр. 15 пэн.
Г-і Я. — Казкі № 3 30 фр. 15 пэн.
Равенскі М. Арсеньева Н. — Магутна Божа. Песня з нотамі. — 5 фр. 3 пэн.
Народная казка — Музыка і чэрці 40 фр. 1 шыл.
Сяднёў М. — Цень Я Купалы 30 фр. 15 пэн.
Каваль П. — Беларусь у датах ,ліках і фактах 250 фр. 6 шыл.
Змагар А. — Случчакі-Апавяданьне—100 фр. 2 ш.
Змагар А. — Рэпка-казка — 30 фр. 15 пэн.
Малітаўнік «Божым шляхам» 80 фр. 2 шыл.
Малітаўнік «Holas Dušy» 200 фр. 5 шыл.
Паштоўкі з беларускімі краявідамі — 15 фр. 8 п.
Камплет часапісу «Божым шляхам» за мінулыя гады 1200 фр. 1 ф. 10 шыл.
M. Bahdanovic — Weissruthenischer Heimat. Lyrik — 50 фр. 2 шыл.

Зьвяртацца на адрасы: У Францыі: R. P. Horosko Leo, 95, rue de Sèvres, Paris VI.

У Англіі: Rev. dr. C. Sipovic, Marian House, Holden Avenue, LONDON N. 12.

У Нямеччыне: Weissruthenischer Caritasdienst in Deutschland. (20b) Goslar/Harz, Sommerwohlenstrasse 1 A.

**УВАГА!**

Усю карэспандэнцыю для рэдакцыі «Божым шляхам» просіцца высылаць на вышэйпаданы асаблісты адрас адказнога рэдактара а. Л. Гарошка.

**Рэдакцыя.**

# З беларускае народнае мудрасьці

Шчасьце перахадзя жыве.
Шчасьце як да каго; адзін бедны, але шчасьлівы, а іншы багаты, а шчасьця ня бачыць.
Шчыраму і Бог памагае.
Язык мой — вораг мой.
Языком што хочаш мялі, а рукам волі не давай.
Язычэ, язычэ! ці ліха цябе мыча; ува мне сядзіш, а мне дабра ня зычыш.
Якая масьць, такая і снасьць.
Якая матка, такое й дзіцятка.
Як Бог адступіцца, то і добрыя людзі не памогуць.
Як воўка не кармі, а ён усё ў лес глядзіць.
Як гукнеш, так і адгукнецца.
Як даробіць ліха, прарэжуцца й зубы.
Як дбаеш, так і маеш.
Як дзе пяюць, прыстань хутчэй, бо песьня сыпіць у злых людзей.
Які госьць, такое й частаваньне.
Які дзякуй, такая й работа.
Які зацін, такі й зачын.
Які куст, такі й парастак.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год V. ВЕРАСЕНЬ — КАСТРЫЧНІК. 1951. № 5 (44).


# Рэлігія і палітыка

Суадносіны рэлігіі і палітыкі належаць да тых справаў, аб якіх кажуць, што яны заўсёды актуальныя і заўсёды далікатныя, таму варта да іх прыглянуцца бліжэй і ўважней, каб іх лепш разумець.

Палітыка і рэлігія маюць супольны прадмет зацікаўленьня — чалавека, але абсяг іхняга дзеяньня вельмі розны. Рэлігія займаецца душою чалавека, яе апошняю мэтаю і адносінамі да Бога; палітыка-ж займаецца толькі дачасным жыцьцём чалавека ў яго грамадзкіх формах і ўзаемадачыненьнях. Але гэта толькі тэорэтычнае разьмежаваньне, бо практычна як не падзеліш жывога чалавека, так нельга разьмежаваць палітыку ад рэлігіі.

Уся гісторыя людзтва ёсьць сьведкам, як часта і як блізка зыходзіліся і мяшаліся з сабою палітычныя і рэлігійныя справы. У некаторых старых дзяржавах нават вышэйшым кіраўніком рэлігіі быў адначасна кіраўнік дзяржавы. Такія адносі былі найлепшым выхадам, каб унікнуць супярэчнасьцяў, але яны былі магчымыя толькі тады, калі ў дзяржаве панаваў рэлігійны сьветагляд.

У наш век поле дзеяньня палітыкі і рэлігіі звычайна і тэорэтычна, і практычна востра разьмяжоўваецца. Сёньня за выняткам Тыбэту, ува ўсіх дзяржавах кіраўнікамі рэлігіяў і дзяржаваў ёсьць розныя людзі. Кажам «рэлігіяў», бо цяпер рэдка дзе ў дзяржаве ёсьць адна пануючая рэлігія. Калі кіраўнічыя становішчы займаюць людзі дарослыя да сваіх заданьняў, дык яны знаходзяць супольную мову і ўмеюць быць узаемна памоцнымі ў сваёй дзейнасьці для агульнага дабра. Інакш маецца справа, калі на кіруючых становішчах знойдуцца неадпаведныя людзі — тады паўстаюць розныя цэрці, ад якіх цярпяць усе грамадзяне данага краю.

Прычынаю непаразуменьняў між палітыкаю і рэлігіяю могуць быць або ідэалягіяныя разыходжаньні, або проста кепска падуманыя асабістыя інтарэсы. У першым выпадку сапраўды цяжка знайсьці супольную мову. Сёньня мы зьяўляемся сьведкамі такога стану ў падсавецкіх краінах, дзе ўлада трымаецца бязбожнае ідэалёгіі і ня толькі што ня думае шукаць супольнае мовы з рэлігіяй, але за ўсякую цану імкнецца зьнішчыць рэлігію і стараецца нават між рэлігійных дзеячоў знайсьці памоцнікаў у гэтай пякельнай працы. Перапоўненыя турмы і канцэнтрацыйныя лягэры за ўвесь час існаваньня гэтае ўлады сьведчаць аб тым, якое «шчасьце» для народу яна можа прынесьці.

У адносінах да бязбожнае палітыкі нават найбольш здольны і сьвяты кіраўнік на адказным рэлігійным пасадзе ня ў сіле пераканаць улады. Наадварот, ён становіцца першаю ахвяраю прасьледу і то тым больш жарсткаю, чым больш будзе годным свайго духовага становішча.

Непаразуменьні з асабістым падкладам праяўляюцца вельмі розна. Іх склясыфікаваць амаль немагчыма, бо звычайна ў непаразуменьнях асабістыя матывы прыкрываюцца якімісь прыгожымі клічамі. Да большых церцяў у гэткіх выпадках даходзіць найчасьцей тады, калі нехта зусім некампэтэнтны займае кіруючае грамадзкае становішча. Ня дай Бог такому «кіраўніку» мець нейкае непамыснае дачыненьне з рэлігіяй — тады толькі асаблівыя абставіны могуць усьцерагчы ад разладу. Тое-ж самае здараецца, калі на адказным рэлігійным пасадзе знойдзецца неадпаведны чалавек; аб гэтым вымоўна сьведчаць прыклады з некаторых аўтакефальных і аўтаномных Царкоў.

Агулам асоба кіраўніка на адказным становішчы мае вельмі вялікае значэньне, часам большае, як самая ідэалёгія, якое ён трымаецца. У матэматыцы ёсьць правіла, якое кажа, што паставіўшы нуль (0) пасьля нейкага ліку, збольшваем даны лік, але паставіўшы нуль перад лікам, зьменшваем даны лік тым больш, чым больш ёсьць той лік. Нешта падобнае дзеецца з адказнымі становішчамі, калі іх даручаць неадпаведным людзям. Ведама, што даць маладушнаму чалавеку вялікую справу, дык ён яе зьнізіць да свайго ўзроўня; наадварот, даць вялікаму чалавеку нават малую справу, дык ён яе ўздыме да свае вышыні. Таму што рэлігія ёсьць адною з найбольшых справаў, якія ёсьць на Зямлі, бо мае на мэце ўзьняць чалавека аж да неба, накіраваць

яго дчаснае жыцьцё для асягненьня надпрыроднага жыцьця, дык зусім зразумела, што маральна нізкія і вузка-эгаістычныя людзі з ёю часта ня ладзяць. Ды гэта самазразумела, што ня будзе ладу там, дзе нехта нават надпрыродныя справы гвалтам стараецца паставіць на службу розным дачасным і хуткапрамінаючым, або проста нейкім пустым асабістым меркаваньням.

Разлад у кожнай дзялянцы жыцьця ёсьць шкодным для грамадзтва, тым больш ён шкодны ў дачыненьнях палітыкі і рэлігіі. Адгэтуль ясны высновак, што ў інтарэсе найшырэйшых грамадзкіх кругоў ёсьць недапускаць да такога разладу, а калі ён заіснуе, дык не шкадаваць ніякіх стараньняў для яго палагоджаньня.

Для добрых суадносінаў між рэлігіяю і палітыкаю можа шмат прычыніцца агульнае ўсьведамленьне датычна сутнасьці гэтых суадносінаў. У шмат якіх дачыненьнях магчыма адзьдзяліць Царкву ад дзяржавы з карысьцю для абедзьвех гэтых установаў, але нельга зусім разьмежаваць палітыкі і рэлігіі, як нельга падзяліць жывога чалавека, бо і палітыка, і рэлігія, маючы розныя апошнія мэты, маюць тую самую дачасную мэту, якою ёсьць агульнае грамадзкае дабро, або інакш кажучы, дабро чалавека. А гэтае дабро можна асягнуць дзеючы толькі згодна з агульным сусьветным парадкам. Бо і сусьветам і паасобным чалавекам кіруе тая самая Рука. Гэта той самы Бог, Які стварыў увесь сусьвет і нашу Зямлю, і чалавека, Які ўстанавіў агульнаабавязуючыя прыродныя законы, той самы Бог даў свае прыказаньні людзям, аб'явіў праўдзівую рэлігію і для ея перахоўваньня заснаваў Царкву. Вось-жа калі хто выступае супраць рэлігіі і Царквы, тым самым выступае супраць сусьветнага Валадара і ўсіх Ягоных плянаў. Будучы пасьлядоўным, кожны той, каму непадабаецца рэлігія мусіў-бы тварыць свой сьвет і ў ім гаспадарыць на свой лад.

На гэтым-жа Божым сьвеце, на якім мы жывём, нельга інакш разумна наладзіць жыцьця, як толькі згодна з Божаю воляю, паводля якое Божыя і Царкоўныя прыказаньні забавязваюць усіх людзей у тым ліку і палітыкаў. Так звычайны вернік, як і найбольшы палітычны кіраўнік маюць адну апошнюю мэту — неба, да якога даходзіцца праз услаўленьне Бога ў кожным нашым дзеяньні. Апостал Павал кажа: «Ці ясьцё, ці п'яцё, ці нешта робіце, усё на славу Божую рабеце» (I Кар. X, 31). Тым больш мусяць мець на ўвеце славу Божую палітыкі, якія шчыра шукаюць дабра для людзтва. Тыя-ж палітыкі, якія ня прызнаюць ані граху, ані існаваньня пекла, робяць пекла на зямлі.

Вялікім няшчасьцем для народу ёсьць ня толькі ваюючая бязбожная палітыка, якая змагаецца з рэлігіяй, але і такая палітыка, якая для свіх нізкіх плянаў упрагае рэлігію сабе на паслугі. Хто як хто, а беларускі народ ведае, што гэткая палітыка значыць.

Бяз доўгіх пералічэньняў усякіх формаў безрэлігійнае палітыкі, можна агульна сказаць, што ад яе нельга спадзявацца дабра. Палітыка, якая разьмінаецца з праўдю, кліча сабе для паслугаў грубую сілу. Беларускі народ на гэтую апошнюю ня можа пакладацца ані з свае любові да праўды, ані з свайго географічнага палажэньня, а перадусім з свае глыбокае рэлігійнасьці, дзеля гэтага нават з чыста нацыянальнага гледзішча беларусы так у сябе, як і ў міжнародных дачыненьнях павінны весьці палітыку згодную з духам Хрыста; гэта значыць палітыку абаснаванную на пашане праўды, Божых прыказаньняў і сьв. Эвангельля.

На эміграцыі ёсьць каля паўсотні розных беларускіх арганізацыяў. Афіцыяльна толькі некаторыя з іх займаюцца палітыкаю, але ў сапраўднасьці кожная мусіць мець нейкія дачыненьні да палітычных справаў — вось-жа тут ёсьць добрая школа ажыцьцяўляць у грамадзкім жыцьці навуку Хрыста; гэта значыць, вырашаць кожную справу так, як-бы Хрыстос вырашыў у нашым палажэньні.

**а. Лазар.**

# Абавязкі адносна самога сябе

Ці трэба яшчэ гаварыць аб абавязках адносна самога сябе, калі яны здаюцца аж занадта самазразумелымі і яснымі? Гэтак можа здавацца толькі на першы пагляд, а ў сапраўднасьці азначыць дакладна абавязкі адносна сябе ёсьць вельмі паважнаю справаю, якую можна вырашыць толькі дакладна ведаючы такія глыбоказьмястоўныя пытаньні, як: хто ёсьць чалавек? Адкуль ён узяўся? Што мае дабрага і ад каго? Якая мэта людзкога жыцьця?

На вышэйпастаўленыя пытаньні ёсьць розныя адказы адпаведна да тых розных сьветаглядаў, якіх трымаюцца людзі. Але каб далёка не адходзіць ад тэмы, пакінем на боку розныя недарэчныя і супярэчныя выясненьні ўсякіх бязбожных сьветаглядаў, а лепш адразу спытаемся, як адказвае на вышэйпастаўленыя пытаньні Царква? Яе адказы ў кароткіх словах можна выказаць так: Чалавек ёсьць найдасканалейшым сатварэньнем на Зямлі, складаецца ён з матэрыяльнага цела і бясьсьмертнае душы. Цела чалавек атрымоўвае ад сваіх бацькоў, а душу ад Бога. З усіх сатварэньняў на Зямлі толькі чалавек мае душу і ў ёй знайходзіцца абраз і падабенства Божае. Ка-

лі наша цела прызначана да таго, каб прайшоўшы кароткі дачасны жыцьцёвы шлях, зноў вярнуцца ў зямлю, з частак якое яно складаецца, дык наша душа мусіць вярнуцца да Бога. Дачаснае жыцьцё чалавека ёсьць толькі кароткаю вандроўкаю па гэтым сьвеце, якая нямінуча вядзе да магілы, але гэты кароткі час земскае вандроўкі неабходна выкарыстаць, каб належна падрыхтавацца да вечнага жыцьця ў небе — гэткая ёсьць мэта дачаснага жыцьця чалавека.

Да вышэй сказанага трэба яшчэ дадаць агульнаведамыя факты, што пачатак існаваньня чалавека зусім не залежыць ад яго; ані бацькі, ані Бог ня пытаюць згоды дзіцяці, ці яно хоча зьявіцца на сьвет, ці не, бо-ж немагчыма нават пытацца таго, хто яшчэ ня існуе. Прыходзячы на сьвет чалавек, зноў-жа незалежна ад свае волі, мае ад бацькоў праз цела пэўную колькасьць розных спадковых здольнасьцяў і нахілаў, але найбольш мае ад Бога — душу з усімі яе сіламі. Усё гэта складае той скарб, які даецца чалавеку для наладжаньня дачаснага жыцьця. Частка гэтага «скарбу» даецца чалавеку ўжо ў канчатковай форме, напр.: рост, краса, тэмпэрамэнт, спэцыяльныя нахілы; а іншая частка, як: розныя здольнасьці, яны даюцца толькі ў пачатковых формах з тым, што кожны чалавек мае абавязак іх разьвіваць. Адносна першае часткі, дык там нашы турботы мала што значаць. Хрыстос адносна іх казаў: «Хто з вас сваей турботай можа дадаць сабе росту, хоць на адзін локаць?» (Мат. VI, 27). Затое адносна другое часткі дык на сумленьні кожнага чалавека ляжыць паважная адказнасьць за іхняе разьвіцьцё, як аб гэтым сьведчыць прыповесьць Хрыста аб талянтах. (Глядзі Мат. XXV, 14-30). Кожны чалавек дастае розныя таленты і абавязаны пасьля сканчэньня свайго дачаснага жыцьця, даваць аб іх справаздачу Таму, ад Каго іх атрымаў.

Перш чым пералічаць розныя абвязкі адносна самога сябе, можна агульна заўважыць, што яны ня ёсьць лёгкімі, бо-ж гэта абавязкі ад выкананьня якіх залежыць збаўленьне нашае душы, а шлях збаўленьня падобны да крутое камяністае дарогі, якая вядзе высока ў гару. Толькі скочвацца з гары лёгка, але каб ўздымацца ўверх, перамагаць розныя перашкоды, патрэбна шмат сілы і вытрываласьці, але добры Бог дае чалавеку гэтыя сілы ў форме сваіх шчодрых ласкаў. Для адкупленьня душы чалавека з палону граху і для выслужэньня патрэбных для збаўленьня ласкаў Сын Божы не пашкадаваў найбольшае ахвяры, якую бачыў сьвет: уцелаўленьня і паніжаючае, крывавае сьмерці на крыжы; ад таго часу крыж ёсьць наглядным знакам, што Бог нам не адмовіць патрэбнае помачы, для выкананьня асноўных абавязкаў. Ап. Павал запэўнівае аб гэтым: «Той, які Сына Свайго не пашкадаваў, але аддаў Яго за ўсіх нас, як не даруе нам з Ім усяго?» (Рым. VIII, 32).

Душа з усімі яе сіламі і Божаю ласкаю — гэта неймаверна вялікі скарб, які даецца кожнаму чалавеку, але зьмяшчаецца ён у вельмі крохкай судзіне — у целе.

А што чалавек мае ад сябе? Толькі грэх ёсьць набыткам чалавека, але якраз ён ёсьць тым найгоршым ворагам, які можа пазбавіць чалавека вечнага шчасьця.

Маючы на ўвеце ўсё вышэй сказанае, ня цяжка азначыць нашы абавязкі адносна сябе.

Найважнейшым нашым абвязкам ёсьць: дбаць аб збаўленьні свае душы, бо яна ў чалавека адна і яна прызначана да вечнага жыцьця. Каб выканаць гэтае вялікае і адказнае заданьне неабходна:

жыць у стане Божае ласкі, гэта значыць: унікаць цяжкога граху, мець заўсёды чыстае сумленьне;

рабіць дабро так для сябе, як і для іншых;

узбагчвацца ў цноты і

разьвіваць свае духовыя і ўмысловыя сілы, бо замала яшчэ не зрабіць нічога дрэннага, але неабходна ўзбагаціцца добрымі набыткамі.

Абавязкі адносна цела ўжо вызначыў апостал Павал ў лісьце да Карынцян: «Ці ня ведаеце, што вашыя целы ёсьць сьвятынямі Духа Сьвятога, Які ў вас, Якога вы маеца ад Бога?» (II Кар. VI, 19). Адгэтуль вынікае, што нельга дапускаць паніжэньня свайго цела праз п'янства, абжорства, распусту, — якія вядуць да збыдленьня і агіджаньня чалавека. Агулам у адносінах да змыслаў трэба трымацца залатога правіла, што чалавек кіруе змыслямі, а ня змыслы чалавекам, падобна як яздак кіруе канём, а ня конь ездаком.

Тое здароўе, якое Бог дае чалавеку, так-жа неабходна сьцерагчы нармальнаю працаю разрыўкамі і належным супачынкам. Але заўсёды трэба памятаць, што турботы пра цела ня могуць быць мэтаю нашага існаваньня, а толькі дапаможнымі сродкамі для ратаваньня душы.

Што найчасьцей зводзіць чалавека на бездарожжа і нават даводзіць да забыцьця аб збаўленьні душы, гэта ёсьць пагоня за дачаснымі дастаткамі. Праўда для наладжаньня дачаснага жыцьця трэба мець некаторыя дастаткі, — на тое іх Бог і даў чалавеку, — але нельга забывацца таго факту, што матэрыяльных дастаткаў ніхто ня возьме з сабою на той сьвет. Яны павінны толькі памагаць справе збаўленьня душы. Дачасныя дастаткі і скарбы найлепш выкарыстаць на тое, каб зьбіраць сабе скарбы ў небе ў форме добрых учынкаў і цнотаў.

Абавязкі чалавека адносна сябе ёсьць на толькі асабістыя, што іх ніхто ня можа выканаць за нас. Як ніхто за мяне ня можа пад'есьці, выспацца, лячыцца, — так сама ніхто за мяне ня можа выспаведацца, прычасьціцца, атрымаць

асьвячаючую ласку, або навучыцца. Нашыя бліжнія ў гэтых дачыненьнях могуць толькі памагчы сваімі добрымі радамі і малітвамі, але самыя абавязкі кожны мусіць выканаць сам за сябе. Ведамы мастак Гольман Гунт намаляваў цікавы абраз «Сьветач сьвету», на якім бачна Хрыста ў агародзе каля замкнёных, цяжка акаваных дзьвярэй нейкага дому. У левай руцэ Хрыстос трымае сьветач, а праваю стукае ў дзьверы. Калі аднойчы крытыкі заўважылі мастаку, што ў дзьверах няма клямкі, дык мастак адказаў: «Гэта дзьверы да людзкога сэрца, а іх можна адчыніць толькі з сярэдзіны». На гэта і дана чалавеку свабодная воля, каб сам свабодна выконваў свае абвязкі і Бог ня хоча сілаваць яе.

Калі хто ня выконвае абавязкаў адносна самога сябе, зусім пэўна ня выканае абавязкаў адносна іншых, а з другога боку гэткі чалавек, які ня выконвае сваіх абавязкаў адносна самога сябе і адносна Бога, ня мае маральнага права вымагаць, каб іншыя выконвалі нейкія абвязкі адносна яго. Гэта на толькі самазразумела, што хіба-ж не патрэбная шырэйшыя выясьненьні, але для ілюстрацыі вось адзін прыклад з жыцьця: Аднойчы ў больніцу прывезьлі моцна пабітага чалавека, якога родныя дзеці выкінулі за дзьверы і сапхнулі са сходаў. Пабіты кляў з апошніх слоў сваіх дзяцей так, што аж іншым на салі было няпрыемна слухаць лаянку. Уканцы хворыя з суседніх ложкаў спыталіся пабітага: «Якое сам рэлігіі?» — «Ніякае!» адказаў злосна пабіты. «Дык як-жа тады можаш наракаць на сваіх дзяцей, — заўважылі пабітаму, — калі сам не шануеш свайго Айца Нябеснага? Калі сам не захоўваеш першых трох Божых прыказаньняў, ня выконваеш сваіх абавязкаў адносна свайго Стварыцеля, дык і дзеці не захоўваюць чацьвёртага прыказаньня адносна цябе».

Падобныя здарэньні сустракаюцца ня рэдка і сьведчаць аб тым, да якое трагэдыі ўжо ў дачасным жыцьці даходзіць тады, калі чалавек занядбае найбольш асноўныя свае абвязкі. Лёгка нам судзіць, дакараць і крытыкаваць іншых, слушна і няслушна ганіць іх, але разрахавацца як сьлед самому з сабою часта не ляжыць, у абсягу нашага зацікаўленьня, а якраз гэта нам ёсьць найбольш блізкім і за гэта адказны кожны з нас асабіста.

**а. Л. Гарошка.**

# Шчырая вера

Сёлета ў жніўні кітайскі камуністычны ўрад выселіў з Кітаю інтэрнунцыя Апостальскага Пасаду Я. Э. Рібэрі. Перад тым, як зрабіць гэты крок, камуністы арганізоўвалі розныя мітынгі ў гарадох і вёсках, на якіх вернікі «прымалі» розныя супрацькаталіцкія пастановы. На адным з такіх мітынгаў 2-VII выступаў кітайскі каталіцкі сьвятар а. Іван Тонг Шэ-Чэ. Ягоная прамова на мітынгу была сапраўдным вызваньнем палымнеючае шчырае веры падобнае да веры першамучаніка архідыякана Сьцяпана. Бура можа згасіць толькі слабы агонь, але яна разьдзьмухвае вялікі агонь, так і прасьледаваньне, яно разьдзьмухвае моцную веру. Няхай аб гэтым сьведчаць словы а. Івана Тонга. Вось важнейшыя мейсцы з ягонае прамовы:

«Рух які адбываецца па-за ерархіяю, сёньня запрашае нас атакаваць папскага прадстаўніка. Заўтра магчыма ён зажадае ад нас атакаваць папу, прадстаўніка Ісуса Хрыста. Чаму-ж пасьлязаўтра ён не зажадае ад нас атакаваць нашага Госпада і Бога самога Ісуса Хрыста? Бясспрэчна, плянуючы атакі, у тэорыі магчыма рабіць разрозьненьні, але ў сапраўднасьці Бог ёсьць адзін і прадстаўнік папы ў нас ёсьць адзін, і папа ёсьць адзін, дык ніякае разрозьненьне немагчымае...»

«Я маю толькі адну душу, якое нельга падзяліць, але я маю яшчэ цела, якое магчыма дзяліць. Мне здаецца тады найлепш ахвяраваць усю душу Богу і сьвятой Царкве, а маё цела — бацькаўшчыне... Матэрыялісты, якія не прызнаюць існаваньня душы, павінны быць задаволеныя з ахвяры майго цела. Я веру, што дзяржава і Царква могуць супрацоўнічаць... і колькі з гэтага магло-б быць карысьці так для Царквы, як і для дзяржавы! Аднак ёсьць наадварот, яны ад сябе аддаляюцца і дайшлі блізка што да такога пункту, адкуль паварот у зад немагчымы. ...Як-бы я хацеў, каб прыпыніць гэтае разыходжаньне, аднак таму, што я бясьсільны ў гэтым палажэньні і не магу пагадзіць яго, дык нічога лепшага не магу зрабіць, як ахвяраваць маю душу адной з двух супрацьстаячых сілаў, а маё цела другой, каб гэтай ахвярай прывесьці іх да паразуменьня. Пакуль гэтага паразуменьня ня будзе, я ня маю нічога іншага да работы. Свае ахвяры я не шкадую, толькі прашу Бога, каб зьлітаваўся над маёю слабасьцю, маёю натураю і даў мне надпрыродную адвагу, каб я астаўся непахісны аж да сьмерці. Я так-жа маю просьбу да ўладаў, каб прынялі маю ахвяру і каб мне не рабілі ніякіх палёгкаў. Асабліва, калі-б я пахіснуўся, дык каб не талеравалі мае слабасьці. Бо хіба-ж слабыя ня ёсьць бічом грамадзтва? Цяпер выкарыстоўваю гэтую нагоду, калі я ўпоўні пры сваім розуме, каб забясьпечыцца на будучыню супраць усякае слабасьці. На выпадак, калі-б мне здарылася страціць кантролю над сабою, я цяпер ўрачыста заяўляю, што ўсё зробленае ў стане слабасьці ёсьць няважнае і незаіснаваўшае... Калі-б я нешта сказаў супраць мае думкі, або нешта падпісаў, чаго я не прызнаю, я ўводзіў-бы ў блуд улады... і зво-

дзіў ерархію... тады я быў-бы нягоднікам, які заслуговае пакараньня ад дачасных уладаў і вечнае кары ад Божае справядлівасьці ў іншым жыцьці...»

«Я падзіўляю непахісную адвагу камуністаў... я малю так-жа Бога, каб у лоне камуністычнае партыі знайшліся шматлікія Саўлы, якія сталіся-б Паўламі і перарасьлі стакротна беднага сьвятара, якім ёсьць я. Гэта мая найшчырэйшая малітва. Яна ёсьць блізкая да выслуханьня. У гэтым намераньні я не пашкадую ніякіх ахвяраў, молячыся з надзею, каб маё дачаснае жыцьцё, якое сёньня ахвярую, сталася зарукаю наверненьня будучага пакаленьня...»

Пакольк Бог выслухаў прылюдную малітву а. Івана Тонга, няма вестак, але няма так-жа вестак і аб ім самым.

# Сьвецкае Апостальства

Сёлета між 7-14 кастрычніка адбыўся ў Рыме першы Сусьветны Кангрэс Апостальства Сьвецкіх Людзей. На ім удзельнічалі прадстаўнікі ад 74 народаў і 38 міжнародных арганізацыяў. Між імі заняла сваё належнае мейсца і беларуская дэлегацыя ад БАКА «Рунь» і ад выдавецтва «Зьніч».

Лік удзельнікаў і размах, з якім адбываўся Кангрэс, сьведчыць аб ягоным значэньні, аб гэтым-жа кажа шырокае водгульле, якое ён выклікаў на старонках вольнае прэсы ўва ўсім сьвеце.

Тым, для каго рэлігійнае жыцьцё ёсьць толькі заняцьцем дэвотак, пэўна-ж падобны Кангрэс можа выдавацца затратай часу. Людзі, сьведама, ці нясьведама прасякнутыя паглядамі на рэлігію Маркса, Энгельса, Леніна і ім падобных, стыхійна баяцца ўсяго таго, што заносіць рэлігіяй. Дый ня дзіва — апосталы марксізму пацелі не надарам, іхняя атрута прасякла паволі ў душы людзей, якія знайходзіліся нейкім чынам пад уплывам іхняе прапаганды. Зматэрыялізаваньне, калі прасякне ў сьветагляд, моцна трымае ў палоне свае ахвяры. Слушна некаторыя гэткі стан называюць хваробай часу.

Царква, як дбайлівая маці найхутчэй убачыць хваробу сваіх дзяцей і першая турбуецца, каб знайсьці адпаведны лек.

Сучасны грамадзкі лад часта так уцягвае людзей у вір сьвецкага жыцьця, так далёка адцягвае ад рэлігіі, накідае ім толькі розных заняцьцяў, або разрыўкаў, што паволі пытаньні Бога, душы, этыкі і пад. перастаюць іх цікавіць. Гэта вельмі небясьпечны шлях і вось Царква кліча ўсіх людзей добрае волі: работнікаў і інтэлігэнцыю, мужчын і жанчын, старэйшых і моладзь — да новага сьвятога пачыну, да апостальства, для нясеньня ў сьвет сьвятых, вечных ідэяў.

Неабходна збудаваць хрысьціянскую дзяржаву, у якой зьменшыліся-б перашкоды на шляху да жыцьця вечнага. А хто-ж гэта можа зрабіць, як не палітыкі, вучоныя, прафэсыяналы прасякнутыя хрысьціянскім духам?! Таму Царква заклікае іх да помачы, да актыўнае дзейнасьці ў прышчэпліваньні хрысьціянскіх ідэалаў у штодзенным жыцьці.

Сьвятары і вышэйшая ерархія астаюцца з волі Хрыста назаўсёды апосталамі вечных праўдаў, але сьвецкія людзі, злучаныя з імі вузлом аднае веры і аднае мэты, павінны стацца так-жа апосталамі вечных праўдаў. Апостальства сьвецкіх людзей вырастае з адных карэньняў, але кіруецца царкоўнай ерархіяй, якая з гэтага гледзішча мае большую адказнасьць. Але мы ўсе належым праз хрост да аднаго містычнага цела Хрыста, Царквы; у кожным з нас праз пасрэдніцтва сьвятых Тайнаў валадарыць Божая Любоў, прышчэпленая ў сэрцах Сьвятым Духам; праз нас хрысьціянства павінна апраўдаць сябе ў разьвязваньні сучасных праблемаў сацыяльнага парадку.

Сучасныя ўмовы жыцьця, можа як ніколі перад тым заклікаюць сьвецкіх людзей да апостальства. Разрост людзкога роду, працэс аб'еднаньня людзей; навуковы, тэхнічны і культурны прагрэс; усьцяж больш скамплікаваны грамадзкі лад; матэрыялізм і ўсе іншыя фальшывыя сьветагляды, якія ў канчатковым выніку вядуць да таталітарызму, што разьбівае жыцьцё асобы і сям'і — вось дзейнікі, якія дамагаюцца прысутнасьці ў сучасным віры жыцьця сьвецкіх апосталаў.

Гэты апосталят можа праяўляцца ў розных арганізаванных формах, ці нават і ў індывідуальнай дзейнасьці. Але які-б ён ня быў, заўсёды вымагае падрыхтоўкі і то нязвычайнае.

Перадусім трэба мець жаданьне эвангельскае дасканаласьці, якая канчаткова зводзіцца да гэраічнае любові Бога і бліжняга, да жыцьця згоднага з навукаю Хрыста ў кожным заняцьці. Трэба выхоўваць сябе і другіх у духу хрысьціянскае навукі; перастаць блукацца па бездарожжах абыякавасьці, бяспутнага сэксуалізму, фальшывае і крыклівае грамадзкае дзейнасьці, якая зводзіцца да сьпіханьня ў прадоньне сваіх суродзічаў, тады, калі нехта з іх асьмеліўся інакш думаць, а нават пісаць, чымся тэтага нехта жадаў. Трэба навучыцца жыць з веры, гэта значыць захоўваць Божыя прыказаньні і карыстаць са сьвятых Тайнаў, асабліва Споведзі і сьв. Прычасьця.

Мы, хрысьціяне, маем за высокія ідэалы, каб іх было магчыма асягнуць слабымі прыроднымі сіламі. Дзе-ж можна тады знайсьці лепшую да-

памогу, як не ў сьвятых Тайнах?! Тут б'е крыніца жывое вады.

Аўтару гэтых радкоў прыемна было атрымаць ад беларускіх інтэлігэнтаў, расьсеяных па ўсім сьвеце, водгукі аб дасягненьні нашае маладое арганізацыі Беларускага Акадэмічнага Аб'яднаньня «Рунь». Але ня ў тым сутнасьць арганізацыі, каб аб ёй добра гаварылі і пісалі; найважнейшаю рэччу ёсьць дух і кірунак арганізацыі. Вось-жа «Рунь» зьяўляецца адзінаю беларускаю арганізацыяй, якая мае на мэце ня толькі згуртаваць беларускую інтэлігэнцыю, але хоча стацца школаю апостальства сьвецкіх людзей.

Дзякуючы розным і шматлікім прычынам старэйшая беларуская інтэлігэнцыя не заўсёды магла атрымаць хрысьціянскае ўзгадаваньне. Прыпадкова і на шчасьце здабывалі беларусы сярэднюю і вышэйшую асьвету і прыпадкова былі веруючымі, або не. У выніку гэтага ня рэдка можна стрэнуць інтэлігэнта, які ня ўмее «Ойча наш», аб праўдах веры і гаварыць няма чаго, але сваю рэлігійную няведу ён звычайна чымсьці прыкрывае. Аднак факт астаецца фактам, такія людзі ёсьць і пакуль яны астаюцца рэлігійнымі нязнайкамі, павялічваюць рады тых, якія аслабляюць пазіцыі змагароў за ажыцьцяўленьне хрысьціянскіх ідэалаў.

Мы далёкія ад таго, каб некага ўкалоць, бо праз гэта можна толькі больш пашкодзіць, чым памагчы, сьцьвярджаем толькі непацешны факт, які мусіць кожнага пабудзіць да больш актыўнае дзейнасьці, да якое мы заклікаем усіх беларусаў добрае волі, каб сталі ў рады апосталаў. Як паказаў першы Сусьветны Кангрэс Сьвецкага Апостальства ў Рыме, мабілізацыя сьвецкіх апосталаў ёсьць і патрэбнаю і магчымаю. Вялікая і пачэсная роля стаіць перад беларускаю эміграцыяю: павялічыць рады беларускіх сьвецкіх апосталаў, ніхто не павінен астацца збоку.

**а. Ч. Сіповіч.**

# Аб заданьнях эміграцыі

Хочучы гаварыць аб заданьнях эміграцыі, трэба прыпомніць сабе заданьні кожнага чалавека, сэнс яго жыцьця, а на гэтай плошчы сэнс існаваньня народу.

Беларускі народ, ня маючы належнае свабоды, ня можа паказаць сябе, чым ён ёсьць. Адным тады з галоўных заданьняў эміграцыі, якая знайходзіцца сярод вольных народаў і сама мае магчымасьць карыстаць з гэтае волі, ёсьць: годна рэпрэзэнтаваць свой народ перад другімі. А яшчэ важнейшае — гэта годна рэпрэзэнтаваць свой народ перад Богам.

Важным заданьнем таксама будзе і тое, каб вярнуўшыся на бацькаўшчыну (каму на гэта Бог пазволіць), завесьці туды хрысьціянскую культуру, бо хаця наш народ сам у сабе мае вялікі запас здаровага вычуцьця дабра і зла, але як-ні-як бязбожны ўплыў цяперачы робіць нямалое спусташэньне. А благое палажэньне, як кажа прыказка, сапсуе і добрае сумленьне.

Той бязбожны ўплыў, у якім цяпер наш народ знайходзіцца, іменна адцягае яго ад выканьня свайго заданьня. А ўсякая рэч, калі яна ня служыць свайму прызначэньню, калі яна не надаецца да ўжытку — дык ведама, што з ею робяць.

І калі народ, там на бацькаўшчыне, адцягаецца ад выкананьня яго заданьня, дык эміграцыя павінна старацца, паводля магчымасьці выканаць гэта за ўвесь народ; няхай яна памятае аб тым, што мэтаю дачаснага існаваньня кожнае істоты, а тым самым і кожнага народу, ёсьць: **уславіць свайго Стварыцеля.**

Для выкананьня тых вялікіх заданьняў, узложаных на кожны народ, як і на кожнага чалавека паасобку, няма іншага больш адпаведнага правіла, як тое, каб усюды і заўсёды жыць і паступаць паводля Божых прыказаньняў.

На сьвеце, як ведама, ёсьць шмат цярпеньняў, а для кожнага эміграНта далучаецца яшчэ адно дадатковае — гэта прымусовае разлучэньне з бацькаўшчынаю, з роднымі і блізкімі. А і выкананьне нашых заданьняў у жыцьці таксама вельмі часта спалучана з самазапярэчаньнем і з цярпеньнямі. Але нашы цярпеньні на гэтым сьвеце, адносна да вечнага шчасьця ёсьць зусім малыя; выбранцы Божыя пераважна шмат цярпелі.

Напрыклад сьв. Жанна д'Арк, маладая бязьвінная дзяўчына, ведамая ў гісторыі, як Арлеанская Дзева, катора вельмі прыслужылася для народу і караю — аднак была жыўцом спаленая. Усемагутны Бог, каторага загады яна выконвала, мог-бы захаваць яе жыцьцё, як захаваў трох біблійных хлапцоў, укіненых у распаленую печ, але відаць нагарода далейшага дачаснага жыцьця была для яе замалая; Бог уплянаваў для яе большую нагароду — нагароду вечнае хвалы.

Пераважна ўсе Божыя высланьнікі, як: пракі і апосталы, і сам Хрыстос былі пазабіваныя, а і цяпер атакі бязбожнага сьвету накіраваны перадусім супраць найбольш адданых Богу слугаў.

Ня глядзячы на ўсе тыя цярпеньні, якія мы бачым на сьвеце і нават на самую сьмерць, каторая ня ёсьць яшчэ найгоршым злом — адвечная Праўда кажа нам аднак цешыцца: «Цешцеся і весялецеся, бо заплата ваша вялікая ў небе» (Мат. V, 12).

Але пакуль мы жывём на гэтым сьвеце, у многіх здарэньнях Бог проста цудоўна захоўвае ад благое прыгоды, як паасобных людзей, так і цэ-

лыя народы, калі аб гэтым Бога просяць і калі гэта згодна з Яго намерамі.

Вось-жа, калі мы хочам, каб на сьвеце было лягчэй жыць, калі хочам, каб наш народ быў вольны — трэба, самым робячы ўсё, што ў нашых сілах, маліць так-жа аб гэтым Бога. Трэба праз літургічны культ аддаваць Богу найвышэйшую хвалу, у чым народ там на бацькаўшчыне моцна зьвязаны. А так-жа прыватна і ўдома і асабліва ў сьвятыні хоць калі-не-калі зьвярнуцца да Бога: «Я стварэньне Тваё, Божа, і аддаю Табе найвышэйшую пашану. Слава Айцу і Сыну і Сьвятому Духу».

А тады, як піша Т. Малько, «прыйдзе Вясна. Так, яна напэўна прыйдзе, бо яна заўсёды паслушная адвечным Божым загадам, толькі трэба, каб да гэтага часу мы навучыліся быць падобна паслушнымі і навучыліся ня поўзаць па балоце, але лётаць бліжэй да Усявышняга». Гэта будзе нам памоцным у выкананьні нашых абавязкаў, нашых заданьняў.

**Д. Анісько.**

# Кіеўская Мітраполія ў другой палавіне XVIII стаг.

(Працяг 4-ы)

### Львоўская епархія.

Астаецца нам разглядзець стан дзьвёх апошніх уніяцкіх епархіяў, хоць і далёкіх ад Беларусі: Львоўскую і Пярэмышлянскую, якія пасьля 1772 г. у большай частцы знаходзіліся ў межах аўстрыйскае імпэрыі. Аб абедзьвех гэтых епархіях шмат цікавых даных знаходзіцца ў ведамай працы д-ра Юл. Пэлэша (1), аднак яму ня быў ведамы кананічны працэс Пятра Белянскага, праведзены мітрапалітам Язонам Смагажэўскім ў верасьні 1781 г. Гэты працэс ёсьць багатаю крыніцаю для пазнаньня ня толькі самога наміната на Львоўскі пасад, успомненага П. Белянскага, але так-жа і Львоўскае епархіі. (Дзьве аднолькавыя копіі кананічнага працэсу знаходзіцца ў Архіве сьв. Кангрэгацыі для Распаўсюджаньня веры) (2).

Хаця Львоўская епархія ніколі да гэтага часу ня мела двох, або трох біскупаў, аднак існавалі тры розныя біскупскія пасады: у Львове, у Галічу і ў Каменцу. У кожным з іх былі мураваныя катэдры, з каторых аднак найпрыгажэйшай была катэдра сьв. Юрага ў Львове.

Пры Львоўскім пасадзе ў 1781 г. была г. зв. капітула канонікаў, у склад якое ўваходзілі чыны протопрэзбітэра, протодыякана, канцлера, 4 канонікаў і інш. Успомнены вышэй кананічны працэс падае 7 вышэйшых годнасьцяў і 4 кананікаты. На фонд капітулы львоўскі біскуп Леў Шэптыцкі вызначыў паважную суму: 40.000 поль. флёрэнаў (3).

Пры Галіцкай і Каменецкай катэдрах былі такжа розныя духоўныя годнасьці, але там ня было ані царкоўных земляў, ані ніякіх царкоўных запісаў. Душпастырства там праводзілі манахі Базыльяне (4).

Толькі пры львоўскім пасадзе знаходзіўся выгадны мураваны біскупскі палац; пры галіцкім пасадзе была дзяравянная прыбудоўка, а пры каменецкім пасадзе ня было ніякага біскупскага дому (5).

Львоўская епархія далучылася да Каталіцкае Царквы толькі ў 1700 г.; аб яе разьвіцьці можна судзіць з ліку парахвіяльных цэркваў. Вось-жа ў Галіччыне пад Аўстрыяй іх налічвалася 1.802, а ў межах Рэчыпаспалітае аставалася 720. Усе гэтыя парахвіі разьдзяляліся на 70 дэканатаў. Гэтыя лікі ўзятыя з успомненага вышэй кананічнага працэсу, а там яны паданы дзеканам з Жоўквы а. Антонім Сабатоўскім (6). Розныя ад гэтых лікаў падае аўтар польскае Падручнае Царкоўнае Энцыклёпэдыі. Ён кажа: «У 1771 г. Леў Шэптыцкі падзяліў архіепархію на 3 капітулы: у Львове, Галічу і Камянцы Падольскім з 42 дэканатамі. Ча часоў Белянскага архіепархія мела 45 дэканатаў з 1.181 парахвіямі» (7).

Як бачым, розьніца ў ліках даволі значная; нажаль сёньня, ня маючы доступу да большае колькасьці гістарычных крыніцаў, цяжка ўстанавіць, каторыя даныя больш праўдзівыя.

У самым Львове апрача катэдры сьв. Юрага было яшчэ восем іншых парахвіяльных уніяцкіх цэркваў, два мужчынскія манастыря і адзін жаночы, а так-жа слаўнае Стаўропігійнае Брацтва.

Што да духоўнае сэмінарыі ў Львове, дык яна мае сваю асобную гісторыю. Жаданьні залажыць яе ў Львове былі ўжо даўно. На гэтую мэту біск. Афанасі Шэптыцкі († 1746) быў пакінуў адпаведную суму грошаў, але яны разышліся на роз-

1. Dr. J. Pelesz — Geschichte der Uuion der Ruthenischen Kirche mit Rom. t. II, 598-612.
2. Archiu Prop. Fide, Scritt. Rif. Congr., anni 1780-82, t. 14, ff. 435-445 et ff. 446-461 v. Processus Canonicus.
3. Processus Canonicus l. c. f. 440.
4. Processus Canonicus l. c. ff. 440 v, 442.
5. Processus Canonicus l. c. ff. 442, 439 v.
6. Processus Canonicus l. c. f. 442.
7. Podręczna Encyclopedyja Koscielna, t. 25-26, Warszawa 1911, 60.

ныя будовы ў Львове, Галічу і Камянцы, дзе кандыдаты на сьвятароў пражывалі супольна, але на свой кошт. Ад 1775 г. з Львоўскае і Пярэмышлянскае епархіяў 6 алюмнаў вучылася ў сэмінарыі ў Вене пры царкве сьв. Барбары. Аднак гэта трывала нядоўга, бо ў 1783 г. загадам імпэратара гэная сэмінарыя была зачынена. Ад тады ў Львове пачалі будаваць сэмінарыю прызначаную для ўсіх сэмінарыстаў з грэка-каталіцкіх епархіяў у Аўстрыі (8).

Даходы Львоўскае епархіі ўплывалі з епархіяльных земляў (каля 10.000 польск. флёрэнаў) і са складак сьвятароў (каля 30.000 польск. флёрэнаў) (9).

**Пярэмышлянская епархія.**

З даўных часоў да Пярэмышлянскае епархіі належалі дзьве іншыя: Самборская і Саноцкая. Згодна з весткамі, якія падае Пэлэш, гэтая епархія ў 1761 г. налічвала 1.200, а ў 1772 г. 1.253 парахвіі. Яе даходы сягалі 10.000 польск. флёрэнаў, з якіх 900 ішло на дзяржаву (10).

У 1712 г. біск. Юры Віньніцкі быў зарганізаваў у Пярэмышлі сэмінарыю, потым аднак з нявядомых прычынаў яе перанесена ў Львоў і спалучана з калегіяй а.а. Тэатынаў. Перад 1772 годам там магло вучыцца толькі 6 уніяцкіх сэмінарыстаў. У 1772 г. там ужо ня бачна ніводнага. Пакуль існавала сэмінарыя ў Вене «Барбарэум» дык туды пасылаліся кандыдаты на сьвятароў з Пярэмышлянскае епархіі, а калі «Барбарэум» зачынена і зарганізавана сэмінарыю ў Львове, дык туды была перанесена падрыхтоўка сьвятарскіх кадраў.

Пярэмышлянская епархія далучылася да Каталіцкае Царквы толькі ў 1691 г., калі яе біскупам быў Ю. Віньніцкі. Гэтае далучэньне было суцэльнае, так што ўжо ў 1772 г. паводля справаздачы біск. Афанасія Шэптыцкага, падрыхтаванае для апостальскага нунцыя Гарампія, яе стан быў такі, што можна было сказаць: «Да цела Пярэмышлянскае епархіі не належыць ніводная няуніяцкая царква, няма ў ёй ніякае праваслаўнае сьвятыні» **(11).**

8. Processus Canonicus l. c. ff. 339 v, 440 v, 442 v; Dr. J. Pelesz — o. c., t. II, 635-636, 639-640.
9. Processus Canonicus l. c. ff. 440 v, 442; Dr. J. Pelesz o. c., t. II, 602 .
10. Dr. J. Pelesz, o. c., t. II, 605-612.
11. Dr. J. Pelesz, o. c., t. II, 610.

---

Так выглядае ў кароткіх словах абраз Кіеўскае Мітраполіі ў другой палавіне XVIII веку. Тут зьвернена ўвагу перадусім на лікавы стан парахвіяў і дэканатаў кожнае епархіі, іхныя даходы, лік цэркваў і сэмінарыяў. Аб духавенстве і біскупах успаміналася толькі прынагадна, але ў далейшым якраз ім будзе прысьвячана больш мейсца і часу, каб мець паўнейшы абраз Каталіцкае Царквы ўсходняга абраду ў XVIII стат. на Беларусі і Украіне.

**а. Ч. Сіповіч.**

(Далей будзе)

# Місія красы

Чалавек мае ўроджанае імкненьне да дабра і красы. Што прыгожае і добрае. тое заўсёды прыцягвае да сябе шчырыя людзкія сэрцы. Толькі хворыя або зьвіхненыя адзінкі ня чулыя на красу. Калісь было нават зьявілася цьверджаньне, што супраць дабра і красы чалавек ня мае свабоднае волі. Праўды ў гэтым цьверджаньні ёсьць толькі, што маючы нешта да выбару, чалавек заўсёды пытае сябе: што лепшае, што прыгажэйшае? тое і выбірае.

У жаночым сьвеце дык там пануе блізка што агульнае і часам нават падсьведамае пераканаsuccessньне, што краса ёсьць найбольш дзейным фактарам, праз які можна на сябе зьвярнуць агульную ўвагу. Дзеля гэтага сёньня працуе аграмадная колькасьць фабрыкаў розных косметычных упрыгожаньняў: усякіх пудраў, шмінкаў, лякаў, крэмаў і пад., якія быццам маюць чалавека зрабіць прыгажэйшым, як ён ёсьць ў сапраўднасьці. Аднак усе гэтыя штучныя сродкі вельмі далёкія ад таго, каб магчы некага ўпрыгожыць, бо сапраўдная прыгажосьць чалавека ня ёсьць толькі вонкавым зьявішчам, але праявам нутранае красы душы чалавека. Вонкавыя-ж сродкі, якімі ёсьць розныя косметыкі, ня могуць даць красы ўжо хоць-бы дзеля тае простае прычыны, што яны самі красы ня маюць. Красным, або прыгожым называем тое, што ёсьць дасканалым, мае адпаведную прапорцыю ці гармонію, тое, што мае парадак і яснасьць, — а гэтага ў косметыках няма.

Упрыгажаць сябе толькі вонкава, зусім ня дбаючы пра ўнутраную красу, гэта ўсёроўна, што бяліць закопчаны комін, ня выцершы перш сажы; найясьнейшая бель, зьмяшаўшыся з сажаю, пачарнее; нешта падобнае можна бачыць у нахварбаваных абліччах, калі рысы гэтых абліччаў выяўляюць гнеў, злосьць, прыгнобленьне, крывадушнасьць і пад.

Самае шуканьне красы ў розных штучных сродках сьведчыць аб тых асобах, што яны сьведамыя нястачы красы ў сябе, бо-ж кажуць людзі: хто свайго ня мае, дык у чужых пазычае. Гэтая сьведамасьць і асабліва жаданьне знайсьці красу ня ёсьць нечым дрэнным, наадварот, гэта

пахвальнае зьявішча, але дрэнна тое, што яго накіроўваецца ня туды, куды сьлед.

Так, як сьвятло можа быць толькі ад сьвятла, падобна і краса можа быць толькі ад красы. Гэта душа фармуе аблічча чалавека, дык ў ёй і трэба пачынаць пошукі красы. Толькі вось пытаньне: як-жа душу ўпрыгожыць? і ці агулам можна на яе ўплываць? Бяссумніву так. Ведамы ў гісторыі выпадак, што сусьветнае славы мастак Леонардо дэ Вінчі пачынаючы маляваць свой слаўны абраз «Тайная Вячэра», выбраў спаміж ватыканскіх харыстых прыгожага юнака Пятра Бандінэльлі, каб быў яму мадэлем для намаляваньня Хрыста. Канчаючы маляваць гэты абраз пасьля двох гадоў працы, мастак ніяк ня мог знайсьці адпаведнага мадэлю для намаляваньня Юды. Аж аднога дня, мінаючы нядобрае славы карчму, ён чуць не спатыкнуўся на нейкага п'яніцу, што ляжаў каля плоту. Глянуўшы на ляжачага, мастак усьцешыўся, што нарэшце знайшоў жаданы мадэль Юды і павёз яго да сябе. Калі п'яны ацьверазіўся і добра ўсьведаміў, дзе ён знаходзіцца, пачаў горка плакаць, Выявілася, што гэта быў Пятро Бандінэльлі, які пасьля двох гадоў разгульнага, бяспутнана жыцьця так зьмяніўся на абліччы, што на ім зьніклі рысы Хрыста, а зьявіліся рысы Юды.

Вельмі глыбокую праўду мае сказ, што пасьля ўпадку ў грэх першага чалавека на сьвеце асталіся толькі тры прыгожыя рэчы: на небе — зоры; на зямлі — кветкі, а між людзей — нявінныя вочы дзяцей. І гэта краса дзіцячае душы, што зьзяе ў іхных вочах. У сьв. Эвангельлі кажацца: «Сьветачам твайго цела ёсьць тваё вока. Калі вока тваё будзе шчырае, дык усё цела тваё будзе сьветлае. Калі-ж вока тваё будзе нягоднае, дык усё цела тваё будзе цёмнае» (Мат. VI, 22-23). На аснове гэтых слоў адзін паважны нямецкі часапіс зьмясьціў цікавы артыкул пад загалоўкам: «Аблічча ёсьць візітнаю карткаю чалавека». Сапраўды прыгожае аблічча, калі яно зьзяе нутранаю красою, дык яе ня можа сьцьміць нават прыпадковы бруд на абліччы. Як сьвятло сонца праходзіць праз густыя хмары, так краса душы чалавека заўсёды адбіваецца нейкім чынам навонках. Памастацку выказвае гэтую праўду М. Багдановіч у вершы: «У вёсцы», апісваючы ўбогую дзяўчынку, калі яна суцяшала свайго малодшага брацікa:

...і ў гэты час яна
Здавалася была аж да краёў паўна
Якойсьці шчыраю, радзімаю красою,
І помню, я на міг пахарашэў душою.
А можа не краса была ў дзяўчынцы той. —
Дзяўчынцы ўпэцканай і хілай, і худой, —
А штось вышэйшае, што Рафаэль вялікі
Стараўся выявіць праз Маці Божай лікі.

Таму што сапраўдная краса робіць на чалавека вялікае ўражэньне, у гэтым яе вялікае і пачэснае пасланства. Усё прыгожае ня толькі цешыць зрок чалавека, але так-жа пабуджае лепшыя пачуцьці. У фізыцы ведамае правіла рэзанансу, або водгульля; але гэтае-ж правіла мае сваю сілу так-жа і ў духовым жыцьці, і ў грамадзкіх адносінах. Прыказка кажа: як гукнеш у лес, так адкугнецца з лесу». У вышэй зьмешчаным вершы паэт прызнаецца, што ён «на міг пахарашэў душою», назіраючы чыстую і высокую красу хоць і ў запэцканым абліччы дзяўчынкі. Але ці толькі паэты такія чулыя на красу? Вось глянь-ма на найзвычайнейшага шэрага чалавека, калі ён, маючы забруджаныя рукі, мусіць узяць нешта чыстае, дык мімаволі шукае чаго небудзь, каб прынамся выцерці рукі; або гляньма, як нехта з бруднымі нагамі ўваходзіць у чысты пакой, першым яго рухам ёсьць шуканьне чагосьці, каб выцерці ногі. Хто ўмее назіраць уважней і мае нагоду прыглянуцца да таго, хто прывык ужываць дрэнныя словы, будзе сапраўды дзівіцца, як на гэткага чалавека можа падзейнічаць асяродзьдзе чыстых, нясплямленых душаў, або проста тое асяродзьдзе, дзе брыдкія словы рэжуць вушы. Там бяз ніякіх пераконваньняў і доказваньняў ён сам пачне ўнікаць дрэнных словаў.

І так у кожнай галіне людзкога жыцьця краса сама бяз лішніх слоў, бяз дыспутаў выконвае сваю вялікую місію ўпрыгожваньня і ўшляхотніваньня душы чалавека.

Каб ясьней усьведаміць сабе, як стан душы чалавека ўплывае на аблічча, варта прыглянуцца да некага, калі ён ласкава гаворыць, і калі сварыцца: калі ён вітае прыяцеля, і калі пагражае ворагу; калі ён гневаецца, і калі моліцца — колькі можа пахарашэць тое самае аблічча бяз ніякіх касмэтычных сродкаў. Майсей пасьля малітвы-гутаркі з Богам меў такое яснае аблічча, што засланяў яго вэлюмам, так яно зьзяла. Якая простая нагода да гэткага ўпрыгожаньня для кожнага чалавека ёсьць шчырыя ранешняя малітва!

Радаснае, усьмехненае аблічча заўсёды прыгажэйшае, чым гнеўнае і панурае, але людзі з нячыстым сумленьнем ня могуць шчыра сьмяяцца. Дзеля гэта той, ці найчасьцей тая, што шчыра шукае красы, зробіць шмат лепш, калі скароціць час выседжваньня перад люстэркам, але часьцей будзе заглядаць у сваё сумленьне, вычышчаць адтуль увесь бруд і пыл, ды ўпрыгожваць сваю душу цнотамі. У сьв. Пісаньні кажацца: «О, як прыгожае чыстае пакаленьне, калі ў ім зьзяюць цноты! Несьмяротная яго памяць, бо яно ёсьць у гонары і перад Богам і перад людзьмі» (Мудр. IV, 1).

Уканцы яшчэ варта зацеміць, што штучныя ўпрыгожаньні, не даючы ніякае красы, забіраюць шмат грошаў і дарагога часу, а ўпрыгожвань-

не сваё душы не вымагае ніякіх выдаткаў і шмат менш часу. Космэтычныя ўпрыгожваньні, калі маюць якое дзеяньне, дык толькі на зьмысловасьць, раздражняючы яе, тады калі сапраўдная краса ўплывае ўшляхотнюючa на іншых.

**А. Цыр-лік.**

# Трыццатыя ўгодкі творчасьці

Сёлета мінае 30 гадоў паэтычнае творчасьці ведамае беларускае паэткі Наталі Арсеньневай. З гэтае нагоды тут зьмяшчаем яе вершы рэлігійнага зьместу і адначасна шлём паэтцы шчырае жаданьне далейшае плоднае працы.

**Рэдакцыя.**

### КРАЙ.

Сонца заходзіць... на вежах кляштарных
ў шклох загараецца тысячы зорных
Ярка-чырвоных агнёў...

Хараша... марыцца... сэрца імкнецца
ў край, што яшчэ прыгажэйшым здаецца,
Сумны, а родны ізноў.

Вёскі там-хат саламяныя стрэхі,
Колькі рабін у садку для пацехі,
Студня з даўгім жураўлём.

Колькі кустоў недацьвіўшае рожы,
Крыж дзеравянны ў канцы-раздарожжы,
Дах ад дажджу над крыжом.

Вечарам майскім вось тут, на растаньні,
Людзі пяюць, адмаўляюць літаньні
Кленчаць у шэрым пылу...

Кленчаць, а сонца за вёскай зьнікае,
Золатам чыстым, густым залівае
Крыж і людзей грамаду.

Верай магутнаю, сьветлаю сілай
Вее над гэтай грамадкай пахілай,
Надзіць прыгожасьцяй май.

Толькі адзін абразок гэткі ў полі —
Й сэрца цябе не забудзе ніколі,
Родны мой край!

1924 г.

### МАЛІТВА.

Магутны Божа! Уладар сусьветаў,
Вялікіх сонцаў і сэрц малых,
Над Беларусяй ціхай і ветлай
Рассып праменьні Свае хвалы.

Дай спор у працы штодзеннай шэрай,
На лусту хлеба, на родны край.
Павагу, сілу і веліч веры
У нашу праўду, у прышласьць — дай!

Дай урадлівасьць жытнёвым нівам,
Учынкам нашым — пашлі ўмалот.
Зрабі магутнай, зрабі шчасьлівай
Краіну нашу, і наш народ!

**Наталя Арсеньева.**

# Цётка Барбара

Той, хто бачыў калі небудзь гэтую цётку, дык пэўна не забудзе яе да сьмерці, а я бачыў яе няраз, дык вось, як жывая, стаіць перад вачыма згорбленая, закручаная ў сваю неазначанага колера хустку гарнатоўку.

Жыла цётка Барбара разам з сваею братавою ў адной хаце. Але што я кажу ў адной хаце, яна жыла толькі ў кухні і займала ўсю праходную кухню і печ, а братавая разам з дзяцьмі займала пярэднюю часьць хаты і ляжанку. Яна, цётка значыцца, між намі кажучы, была старою дзеваю; ззмаладу нямала сьвету бачыла, шмат сьвятых мейсцаў абхадзіла, малітвы ўсе напамяць ведала, але каб яе спытацца: нашто яна жыве на сьвеце, дык адказаць-бы ня ведала што. Мела яна кавалак поля, у хляве адну карову і сьвіню, — так як і ўсе гаспадары ў вёсцы, а да таго — братоў у Амэрыцы і трох катоў на печы. Іншы на яе мейсцы жыў-бы прыпяваючы, а яна казала, што больш гаротнае кабеты, як яна, на сьвеце няма.

Цікавая была цётка Барбара. Людзі казалі, што яна ня ўмела ані сьмяяцца, ані плакаць; цяжка паверыць, каб кабета ды плакаць ня ўмела, дый я сам аднойчы чуў на свае вушы, як яна хныкала, але няхай будзе так, як людзі казалі.

Мажа-б аб ёй ніхто нічога і ня ведаў, і людзі на языкі не ўзялі-б, каб ня братавая (языкатая баба была тая братавая, няма чаго праўды таіць). Бывала ў нядзелю рана, як пачнуць у царкву на завутраню званіць, так у барбарынай хаце і пачынаюцца воўчыя пацеры. Ды як было не злавацца цётцы Барбары, хто быў-бы лепшы на яе мейсцы, калі братавая разоў дваццаць праз кухню прамчыцца, а дзеці яе дык і ліку няма колькі разоў лётаюць на двор праз кухню, хо-

ладу напускаюць, маліцца перашкаджаюць. А яшчэ розныя жабракі сэрца ад'ядаюць кабеце дый годзі. Нічога ня робяць, адно валочацца. Рыпне дзьвярыма і мармыча:

— Падарэце, калі ласка...

Цётка Барбара часам якую бульбіну дасьць, але ці-ж усіх абдарыш?! Ды злосьць бярэ яе, што да братавае жабракі ня йдуць, а толькі да яе. Адзін, другі раз была яна папрабавала накіраваць іх да братавае, але пасьля гэтага не ўсьпяваў яшчэ жабрак дзьвярэй зачыніць, як у хаце пачыналася такая «прыяцельская» гутарка, якую можна было пачуць аж у другім канцы вёскі.

Пасьля гэтага надумалася цётка Барбара з жабракамі інакш паводзіцца. Увойдзе такі ў кухню і паўтарае сваё завучанае:

— Падарэце, цётка, калеку няшчаснага!

— Хоць-бы памаліўся, ў хату ўвайшоўшы, а тады ўжо падарыць прасіў, — кажа злосна цётка Барбара.

І моліцца той, гледзячы на цётку, як на воўка. А калі які жабрак выглядаў мацнейшы і маліўся сам, увайходзячы ў кухню, дык казала яму перш дроў нашчапаць, або вады прынесьці.

— Цётушка, дык я-ж не магу, таму і па людзях хаджу, — апраўдваліся некаторыя.

— А мяне дык ніхто ня пытае, ці я магу, хворая, старая, няшчасная...

Але што жабракі, ведама, людзі валачашчыя, дык ня дзіва, што на іх хтосьці ўзлуецца, іншая справа з суседзямі. Ды што-ж калі як на тое, між суседзямі цёткі Барбары ніводнага добрага чалавека ня было. Праўда, гэта так казала яна сама, але ці-ж няпраўду яна казала, калі гэтыя людзі да яе ніякае літасьці ня мелі? Калі трэба было часам калодзезь вычысьціць, дык маглі-б гэта суседзі і самі зрабіць; але не, яе клічуць і сварацца, калі ня прыдзе.

— Ці я адна многа вады бяру, няхай яго чысьцяць тыя, што больш карыстаюць, — кажа сабе яна і стараецца дзе сыйці так, каб яе ня бачылі.

Дарогу трэба часам правіць, дык няма таго, каб самі зрабілі, што трэба, але абавязкава цёткі Барбары накажуць.

— Я ані каня, ані воза ня маю, чаго вы ад мяне хочаце, — апраўдваецца яна, але ніхто і слухаць яе ня хоча, кажуць:

— Поле маеш, дык і з дарогі карыстаеш.

Надумаліся былі ў вёсцы складку зрабіць, каб сёе-тое ў пажарную прыкупіць, ня дай Бог бяды, каб было чым ад пажару ратавацца. Усе далі, што маглі, а цётка Барбара нічога.

— Як трэба «дай», дык тады мяне кожны бачыць, а як «на», дык тады мяне ніхто ня бачыць, — злавалася цётка Барбара. І сапраўды летам бывала падчас сенаваньня, хто першы сена скопіць, ідзе суседу паможа і сьмяюцца сабе, разам канчаючы даграбаць, а потым, песьні пяючы дамоў ідуць часам каля самае цёткі Барбары і нават у яе бок ня глянуць, як яна адна гаруе.

— Зубаскалы гэтыя, ім адно пустое у галаве, — злосна, пазіраючы ім у сьлед, мармыча яна.

Часам было жалка глядзець на яе заўсёды адну нахмураную і прыгнобленую. Мусіць такі ў той вёсцы людзі сапраўды былі бессардэчныя і бязбожныя, дык ці-ж дзіва, што ім непадабалася пабожная цётка Барбара?!

— Ці-ж з гэтымі бязбожнікамі можна ўжыцца, — казала яна аднойчы некаму пабожнаму чалавеку, стрэнуўшы яго на гасьцінцы і даведаўшыся, што ён ідзе на прошчу ў Вільню, — гэта-ж ці дасьце веры, даўней бывала, як хто захварэе, дык і запрычашчаюць і пасаборуюць, а цяпер я некалькі разоў хацела параіць хворым, каб пасаборваліся, дык ня то што не паслухалі, але нават потым ледва ўвагарылі іх выспаведацца.

— А хто іх потым угаварваў выспаведацца? — перабіў яе гутарку падарожны.

— Свае хатнія...

Падарожны толькі галавою пакруціў і, нічога больш ня пытаючыся, пашоў далей. Але між намі кажучы, дык тых хворых яна зусім не намаўляла, але сварылася з імі так, што адзін чуць у яе пляшкаю з лекамі не папусьціў, ледва хатнія ўстрымалі і самую з хаты вывелі.

У той вёсцы жыў такі дзед, Габрусём звалі, дык ён як убачыць, што цётка Барбара ў царкву пайшла, тады яго і на вяроўцы ў царкву не зацягнеш, так ужо ня любіў яе, а каб спытаецца зашто, дык-бы пэўна не сказаў. Калі аднойчы была цётка Барбара прыхварэла і суседкі зьбіраліся яе адведаць, дык ён казаў:

— Ня бойцеся, яна не памрэ, бо ў неба яе ня пусьцяць, у чысьцілішчы ёй мейсца няма, а ў пекла пабаяцца ўзяць, каб там другога пекла не зрабіла.

Ну і гавары ты з такім чалавекам, што хочаш, бо дзе-ж гэта відана, каб хто жыў на зямлі і не памёр?

Але ведама дзед Габрусь — дзівак, яму няма чаго дзівіцца, толькі вось дзіўна, што нават з усімі сваімі роднымі цётка Барбара ніяк ня ладзіла. Яе стрэчны брат быў старастаю і аднойчы прышоў да яе падаткі сысквадь. Слова па слову і да паважнейшае гутаркі дайшло і пасыпаліся наракань-ні на ўсіх і на ўсё:

— Ты так, Барбара, на ўсіх наракаеш, — ня вытрымаў ўканцы староста, — што можна падумаць, нібыта на сьвеце няма ніводнага добрага чалавека.

— Усяго сьвету я ня ведаю, — адрэзала яна злосна, — але ў нашай вёсцы ніхто мне нічога добрага не зрабіў.

— Добра, ты гаворыш усё аб іншых, але скажы-ж ты мне перш, каму ты зрабіла што добрае, бескарысна добрае? Га?

Цётка Барбара першы раз у сваім жыцьці ня ведала, што адказаць.

**А. Жменя.**

# БІБЛІЯГРАФІЯ

## «ПРАВАДНІК СЛАВЯНСКІХ МОВАЎ».

Нядаўна ў Лёндане вышла з друку кніжка лектара Лювэнскага Унівэрсытэту праф. Р. дэ Брэй — «Праваднік славянскіх моваў». R. g. A. De Bray, Guide to the Slavonic languages; London; 1951 s. XXVI + 797.

Гэтая абшырная праца заслугоўвае на тое, каб ёй прысьвяціць больш мейсца і ня сумняёмся, што адпаведныя часапісы гэта зробяць. Тут у скароце падамо для агульнае інфармацыі толькі некаторыя важнейшыя даныя.

Кніжка дэ Брэйя ёсьць параўнаўчай граматыкай усіх славянскіх моваў, пачынаючы ад стараславянскае аж да невялікае лужыцкае ўключна. Апрача агульнага ўступу, аўтар падае кароткі гістарычны нарыс кожнае з моваў, далей разьбірае асаблівасьці мовы і ўканцы падае прыклады з прыгожае літаратуры і бібліяграфію, якою карыстаўся пры апрацаваньні свайго твору.

Беларускую мову залічвае да групы ўсходнеславянскіх моваў. Паказвае на розьніцы і падабенствы са стара-славянскаю, украінскаю, расейскаю, польскаю і інш. мовамі. Правапіс і граматыка, якіх трымаецца аўтар, тыя, якія цяпер накінены ў БССР.

Аўтар ня меў шмат матэрыялу пры апрацаваньні беларускае часткі і гэта адбілася некарысна на самым творы, аднак ня гледзячы на розныя дробныя нястачы, кніжка праф. дэ Брэйя мае вельмі вялікую вартасьць і то ня толькі для філялёгаў, але агулам для ўсіх, што цікавіцца славянскімі народамі.

**Ч. С.**

## «СВАЕАСАБЛІВАСЬЦІ БЕЛАРУСКАЕ МОВЫ».

Невялічкая брашура Л. Іскры — «Своеасаблівасьці Беларускае Мовы», Выданьне «Моладзь» — Парыж 1951, стр. 19, хоць выдана на ратататары, але так-жа вартая ўвагі філялёгаў дзякуючы сваёй актуальнасьці. Апрацавана яна вельмі ясна і мае шматлікія прыклады, ўзятыя так з беларускае мовы, як і з суседніх славянскіх моваў: расейскае, украінскае і польскае. Табліцы і дыяграмы робяць кніжку лёгкаю для карыстаньня і прыступнаю для шырэйшых кругоў чытачоў.

**Л. Г.**

# НА РЭЛІГІЙНАЙ НІВЕ

## ЗАКЛІК СЬВЯЦЕЙШАГА АЙЦА ДА ПАЕДНАНЬНЯ.

З нагоды 1500 чугодкаў Халкідонскага Сусьветнага Сабору Сьвяцейшы Айцец Пій XII выдаў энцыкліку, у якой заклікае хрысьціян усяго сьвету зьяднацца і змагацца пад адным сьцягам супраць нападаў пякельнага ворага. Вось некаторыя мейсцы з гэтае энцыклікі:

«Хто можа назіраць бяз страху нянавісьць і лютасьць, з якою ў многіх краінах ворагі Бога імкнуцца зьнішчыць, або выкараніць усё тое, што боскае і хрысьціянскае?»

«Супраць спалучаных ворагаў, якія займаюцца такою дзейнасьцю ня могуць далей аставацца адасобненыя і падзеленыя асабліва тыя, што ахрышчаныя і тым самым маюць абавязак змагацца за Хрыста».

Канчаецца энцыкліка заклікам да контаў і якобітаў, якія да гэтага часу трымаюцца асуджанае на Халкідонскім Саборы навукі монофізытаў, каб нарэшце прыедналіся да Каталіцкае Царквы.

## МІЖНАРОДНЫ КАНГРЭС ФАТІМСКАГА ПАСЛАНЬНІЦТВА І МІРУ.

Уся вольная прэса ў сьвеце жыва адгукнулася аб Міжнародным Кангрэсе Фатімскага Пасланьніцтва і Міру, які адбыўся сёлета ў Лісабоне між 7-10 кастрычніка. Лік удзельнікаў на Кангрэсе быў нязвычайна вялікі, даходзіў да мільёна чалавек. Даклады прачытаныя на Кангрэсе асьвятлялі Фатімскае пасланьніцтва Н. Дз. Марыі з рэлігійнага, сацыяльнага і міжнароднага гледзішча і былі апрацаваны навукоўцамі і грамадзкімі дзеячамі сусьветнае славы. Найбольшы розгалас выклікала ў сусьветнай прэсе слова папскага легата на Кангрэс Я. Эм. кардынала Фэдэрыко Тэдэскіні, які між іншым сказаў, што Сьвяцейшы Айцец летась, перад абвешчаньнем догмы унебаўзяцьця Н. Дз. Марыі бачыў тры разы такія-ж сонечныя зьявы, якія калісь у 1917 г. суправаджалі паявы Маці Божае ў Фатіма. Перад заканчэньнем Кангрэсу прамаўляў праз радыё да кангрэсістаў і паломнікаў Сьвяцейшы Айцец, падчырквaючы неабходнасьць пакуты для асягненьня міру на сьвеце.

## ЭЎХАРЫСТЫЧНЫ КАНГРЭС У НІМ.

Уканцы верасьня адбыўся ў Нім Францускі Эўхарыстычны Кангрэс. Асабліва велічнае было яго заканчэньне дня 30-IX, на якое сабралася больш 150 тысяч удзельнікаў. Да гэтае ўрачыстасьці прычынілася: Служба Божая, адпраўленая пад чыстым небам, зьмястоўныя канфэрэнцыі і казаньні працэсіі дэлегацыяў з усіх правінцый Францыі ў сваіх нацыяльных вопратках, начны паход паломнікаў са сьветачамі і канцовае слова да кангрэсістаў праз радыё Сьвяцейшага Айца — усё гэта зрабіла незацёртае ўражэньне на ўсіх удзельнікаў.

## ЗАМЯШАНЬНЕ ў БУДАПЭШЦЕ.

Уцекачы з Будапэшту паведамляюць, што мадзярскі камуністычны ўрад выдаў загад аб зруйнаваньні трох вялікіх і прыгожых каталіцкіх сьвятыняў у Будапэшце: Прачыстае Дзевы, Бэльварозі і а. а. Францішканаў. У адказ на гэта жыхары Будапэшту ўладзілі вялікую дэманстрацыю. Сабраных заатакавала паліцыя; было шмат раненых і арыштаваных. Не зважаючы на гэта, калі правілася апошняя, дазволеная ўладамі, Служба Божая ў касьцёле Прачыстае Дзевы, дык туды сабралася толькі народу, што запоўнілі ўвесь пагост і суседнія вуліцы. Сабраных разагнала паліцыя.

Першыя чатыры інжынеры, прызначаныя для разбурэньня названых сьвятыняў, адмовіліся выканаць даручэньне ўлады, за гэта ўсе знайшліся ў турме.

Відаць, што спробы камуністаў скампраматаваць Каталіцкую Царкву ў вачох насельніцтва розными судовымі працэсамі не асягнулі намечанае мэты, дык цяпер пачынаюцца насільствы і застрашваньні.

## ЗМАГАНЬНЕ ЗА ВОЛЬНАЕ ШКОЛЬНІЦТВА.

Пасьля доўгіх дэбатаў і спрэчак, францускі парлямэнт канчаткова прызнаў запамогу для прыватных, або т. зв. вольных школаў. У францускіх урадавых школах рэлігія не выкладаецца, таму каталіцкія бацькі змушаныя пасылаць сваіх дзяцей у прыватныя каталіцкія школы, але аплата за навуку ў прыватных школах часта ўнемагчымлівала бяднейшым бацьком выканаць свае рэлігійныя абавязкі адносна дзяцей, дзеля гэтага пастанова аб прызнаньні запамогі вольнаму школьніцтву ёсьць вялікім асягненьнем францускіх каталікоў.

## «ДЭМАКРАТЫЗАЦЫЯ ЦАРКВЫ».

Нядаўна румынскі камуністычны ўрад падаў да агульнага ведама, што 250 духоўных румынскае Праваслаўнае Царквы падпісалі заяву, у якой забавязаліся на будучыню: гаварыць казаньні толькі «ў дэмакратычным духу»; у сваіх цэрквах вывешваць на відным мейсцы камуністычныя сымбалі і ўканцы кожнага багаслужэньня даваць агульнапрыступныя кароткія палітычныя камэнтары.

Але да самога гэтага факту ўсякія камэнтары лішнія, бо і бяз іх ясна, якія гэта «духоўныя» падпісалі гэную заяву і хто яе інспіраваў.

## СТАНОВІШЧА АНТЫЮХІЙСКАГА ПАТРЫЯРХА.

Паміж усходнімі праваслаўнымі патрыярхамі сучасны Антыюхійскі патрыярх Аляксандар III увайшоў у такія блізкія зьвязкі з савецкім Маскоўскім патрыярхам, што арабскія газэты пачалі аб ягонай дзейнасьці пісаць такія артыкулы, як, напр., «Праваслаўная Царква на службе камунізму» і пад. Гэтым летам успомнены патрыярх гасьцяваў у Маскоўскага патрыярха і адведваў Одэссу. Вярнуўшыся адтуль, хваліў стан Праваслаўнае Царквы ў СССР і наадварот ганіў Візантыйскага патрыярха Атэнагора за тое, што **ён ня** «выступае супраць З.Ш.А., ні супраць Ватыкану, ані супраць ніводнага падбуральніка да новае сусьветнае вайны», чым вельмі заўзята займаецца пад бальшавіцкую дыктоўку Маскоўскі патрыярх.

## СПРАВА ДЫПЛЁМАТЫЧНЫХ ЗЬВЯЗКОЎ МІЖ ТУРЦЫЯЮ І ВАТЫКАНАМ.

У сваёй летняй рэзыдэнцыі Кастэль Гандольфо Сьвяцейшы Айцец прыняў на прыватнай аўдыенцыі Андрэя Ваграм — дэпутата прэзыдэнта і рады міністраў Турцыі. Пасля аўдыенцыі Андрэй Ваграм заявіў прадстаўнікам італійскае прэсы, што ў палітычных і дыплёматычных колах Турцыі сочаць з вялікім зацікаўленьнем і падзівам дзейнасьць Ватыкану ў справе абароны свабоды і міру ў сьвеце, дзеля гэтага цяпер у Турцыі разважаюць адпаведнасьць устанаўленьня дыплёматычных зьвязкоў з Ватыканам.

## ДЫПЛЁМАТЫЧНЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ ў ВАТЫКАНЕ.

Цяпер з Ватыканам маюць дыплёматычныя зьвязкі толькі 43 дзяржавы. Характэрна, што большасьць новапаўсталых дзяржаваў амаль адразу выслалі сваіх прадстаўнікоў у Ватыкан, як, напр.: Індонэзія, Філіпіны і Пакістан. Затое некаторыя з вялікіх дзяржаваў, ня маюць ніякіх зьвязкоў. Злучаныя Штаты Амэрыкі толькі цяпер вызначылі свайго «надзвычайнага амбасадара і паўнамоцніка» для зьвязкоў з Ватыканам,

але яшчэ канчаткова гэтага назначэньня не афармілі. Варта ўвагі той факт, што прадстаўніцтвы ў Ватыкане маюць нават дзяржавы амаль чыста магомэтанскія, як Пакістан і Егіпет, дзе на 17 мільёнаў магомэтанскага насельніцтва ёсьць толькі 230 тысяч каталікоў. У Швайцарыі ёсьць ватыканскае прадстаўніцтва, але швайцарскага прадстаўніка ў Ватыкане няма.

Падсавецкія краіны афіцыяльна да гэтага часу не парвалі дыплёматычных зьвязкоў з Ватыканам, але паадклікалі ўсіх сваіх дыплёматычных прадстаўнікоў, а з сваіх краінаў павыкідалі ватыканскіх прадстаўнікоў. Польшча і Летува маюць яшчэ даваенных прадстаўнікоў пры Ватыкане. Югаславія мае пры Ватыкане толькі аднаго шаржэ дафэр.

З Турцыяй і Грэцыяй вядуцца перагаворы аб навязаньні дыплёматычных зьвязкоў.

### У АБАРОНЕ РЭЛІГІІ.

У маленькай сярэдняамэрыканскай рэспубліцы Гватэмалі нядаўна адбыліся паважныя завярушэньні ў абароне рэлігіі. У горадзе Гватэмаля некалькі месяцаў таму ў адзін з найбольшых сіроцінцаў назначана дырэктарам камуніста. Той сваё кіраваньне распачаў ад таго, што звольніў з сіроцінца тры каталіцкія сястры ўзгадавальніцы і на іх мейсца прыняў 4-х настаўнікаў камуністаў. У адказ на гэткія перамены заштрайкавалі ўсе 600 дзяцей сіроцінца, а жыхарства Гватэмалі зарганізавала перад сіроцінцам вялікую дэманстрацыю, да якое далучыліся студэнты і настрой таўпы стаўся такі ваяўнічы, што была загрожана бясьпека сіроцінца. На просьбу ўлады мяйсцовы архібіскуп супакоіў дэманстрантаў, але пасьля гэтага яны накіраваліся да прэзыдэнта з дамаганьнем, звольніць дырэктара камуніста з сіроцінца. Паход старалася разагнаць паліцыя, страляючы ў дэманстрантаў. У выніку страляніны было трох забітых і шмат параненых, але дэманстранты не зважаючы на гэта дайшлі да прэзыдэнта і асягнулі неадкладнае выкананьне сваіх дамаганьняў.

### НОВЫ ГЭНЭРАЛ АЙЦОЎ МАРЫЯНАЎ.

Сёлета ў кастрычніку зьмянілася ўправа Закону Айцоў Марыянаў, у якім ёсьць нямала і беларусаў. На мейсца Я. Э. Пятра Бучыса выбраны гэнэралам а. д-р Ул. Мрочэк. У раду ўправы ўвайшлі айцы розных нацыянальнасьцяў.

### СЬМЕРЦЬ Я. Э. ПЯТРА БУЧЫСА.

Дня 25-га кастрычніка г.г. пражыўшы 80 гадоў, заснуў вечным сном Я. Э. Пятро-Францішак Бучыс, былы гэнэрал Айцоў Марыянаў. У асобе Я. Э. Бучыса беларусы страцілі свайго прыяцеля, летувіскі народ — свайго вялікага сына, а Каталіцкая Царква — вялікага дастойніка.

Пакойны заўсёды прымаў беларусаў з нёўдаванаю шчырасьцю і паколькі мог, дапамагаў беларусам у Рыме. Меў так-жа немалую карэспандэнцыю з беларускімі дзеячамі.

Няхай добры Бог узнагародзіць яму за усё.

---

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА

## БАЦЬКАЎШЧЫНА.

### Супрацьбальшавіцкая дэманстрацыя ў Вільні.

Паводля вестак, якія нядаўна атрымана з Бэрліну сёлета Віленшчына перажывала вельмі ўзмоцненую хвалю вывазаў у Сібір і асабліва жарстокае прасьледаваньне каталікоў беларусаў і летувісаў. Аднак увесь бальшавіцкі тэрор ня здолеў зламаць народнага духу супраціву. Калі ў Вільні 8-га верасьня бальшавікі склікалі мітынг, дык партызаны з радоў «Чорнага Ката» выкарысталі яго для супрацьбальшавіцкае дэманстрацыі. Кінуўшы некалькі пэтардаў, яны выклікалі замяшаньне, у часе якога ўзносіліся супрацьбальшавіцкія клічы і дамаганьні асноўных свабодаў, вольнасьці слова і згуртаваньняў. Паліцыя мітынг разагнала, але наступнага дня ў ваколіцы Вільні зьявіліся лятучкі ў беларускай, летувіскай і польскай мовах з заклікам гуртаваньня супрацькамуністычных сілаў і да супрацькалгаснае акцыі.

## АНГЛІЯ.

### Беларускі Дом у Брадфордзе.

Дзякуючы ахвярнасьці беларусаў з акругі Ёркс і дапамозе вялікае прыяцелькі беларусаў Бэты Проктор, куплена прыгожы дом у Брадфордзе, прызначаны для патрэбаў беларускага грамадзкага жыцьця. Сёлета 13-га верасьня а. Крыт урачыста пасьвяціў Дом. На ўрачыстасьці пасьвячаньня прысутнічалі, акрамя беларусаў з Брадфорду і акругі, так-жа шматлікія госьці, якія віталі беларусаў з новым набыткам.

## АРГЭНТЫНА.

### Культурны Вечар.

Управа Згуртаваньня Беларусаў у Аргэнтыне сёлета 26 жніўня ладзіла ў сваёй сьвятліцы ў Буэнос Айрэс Культурны Вечар прысьвечаны: гі-



**Агульны від Вільні.**

сторыі Беларусі ў 20-ым стагодзьдзі і памяці беларускіх жаўнераў, загінуўшых пад Монтэ Касіно.

Даклад аб вызвольных змаганьнях беларускага народу ў 20-ым стагодзьдзі і аб сёньняшніх зьдзеках маскоўскага бальшавізму на Беларусі зрабіў старшыня ЗБА — Ул. Другавец. Пасьля яго дакладу К. Мерляк прачытаў лісту загінуўшых беларусаў пад Монтэ Касіно і зрабіў перагляд збройнага і духова-маральнага змаганьня беларускага народу ў абароне свае волі і волі іншых народаў.

Пасьля дакладаў была адслужана паніхіда за загінуўшых беларусаў пад Монтэ Касіно.

На заканчэньне Вечару была наладжана сяброўская бяседа. Поўная сьвятліца сьведчыла аб тым, што зацікаўленьне Вечарам было вялікае.

### З. Ш. А.

**Сход Саюзу Беларускіх Журналістаў.**

У выніку масавае эміграцыі ў З.Ш.А. там знайшлася вялікая колькасьць сяброў Саюзу Беларускіх Журналістаў. Дня 8-IX адбыўся ў Нью-Ёрку сход СБЖ, які, разглянуўшы новую сытуацыю арганізацыі і намеціўшы плян працы на бліжэйшую будучыню, выбраў новую галоўную ўправу СБЖ, якую ачолюе М. Панкоў.

**Міжнацыянальнае сужыцьцё.**

Ад 1946 г. існуе ў З.Ш.А. Фэдэрацыя Амэрыканцаў Цэнтральнага і Усходняэўрапэйскага Паходжаньня, у якую ўвайходзілі паасобныя нацыянальныя арганізацыі ад: украінцаў, мадзяраў, палякаў, летувісаў, славакаў, закарпацкіх украінцаў, харватаў, сэрбаў і славэнцаў. Цяпер туды прыступілі так-жа беларусы, дэлегуючы свайго прадстаўніка ад імя Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў З.Ш.А.

**Новы рэлігійны часапіс.**

Беларускі Праваслаўны Царкоўны Камітэт у Амэрыцы, падлягаючы юрысдыкцыі Экзарха Візантыйскага Патрыярха арх. Міхаіла, пачаў выдаваць ад лепеня г.г. свой квартальнік пад назовам «Царкоўны Сьветач».

### НЯМЕЧЧЫНА.

**Памёр м. Бэнэдыкт.**

Дня 3-га верасьня г.г. памёр у Мюнхене ад раку пячонкі мітр. Бэнэдыкт (Бабкоўскі) калішні архіяпіскап Горадзенскі і Беластоцкі. Ён ад лютага 1946 г. належаў да Расейскае Праваслаўнае Зарубежнае Царквы і ад 19-IX-1950 г. быў міт-

рапалітам Бэрлінскім і Нямецкім. Пад яго апекаю выдаваўся часапіс «Православный Белорусс» і вёўся намінальны «Белорусский Православный Комитет», праз якія вялася моцная супрацьбеларуская акцыя.

## БЭЛЬГІЯ.

### Між беларускіх студэнтаў.

Беларуская студэнцкая грамада ў Лювэне пачала новы акадэмічны год з новымі пацяшаючымі зьменамі. Да чатырох вясеньніх абсальвэнтаў у верасьні далучылася яшчэ пяцёх; апошнім часам закончылі свае студыі: а. Аўгень Смаршчок — псыхалёгію, Зоя Смаршчок — фармацыю і трох лекараў кончылі мэдыцыну: Уладзімер Набагез, Юрка Лыслоў і Міхась Жылік. Гэткім чынам дзякуючы Лювэнскаму Каталіцкаму Унівэрсытэту сёлета кадры беларускае інтэлігенцыі ўзрасьлі на 9 чалавек. Аднак беларуская студэнцкая грамада ў Лювэне праз гэта мала зьменшылася, бо на мейсце закончыўшых прыехалі новыя студэнты з Англіі (6) і Бэльгіі (1). На пачатку гэтага акадэмічнага году ў Лювэне студыявала 31 беларусі студэнт.

## ГІШПАНІЯ.

### У Калегіі сьв. Якава.

Мадрыдзкі гурток беларускіх студэнтаў ёсьць наймалодшым на эміграцыі. На пачатку бягучага году там было трох беларускіх студэнтаў, а нядаўна прызвана стыпэндыя чацьвёртаму. Беларускія студэнты жывуць з іншымі ў Калегіі сьв. Якава, якая спэцыяльна створаная для студэнтаў з краінаў паняволеных камунізмам. У гэтым годзе там ёсьць 170 студэнтаў. Іхны нацыянальны склад такі: беларусаў 3, грузінаў 2, кітайцаў 5, латышоў 4, летувісаў 1, мадзяраў 12, палякаў 35, румынаў 8, славакаў 9, славэнцаў 18, украінцаў 29, харватаў 27, чэхаў 6, эстонцаў 1. Утрыманьне Калегіі забясьпечвае гішпанская арганізацыя Дзеяньне Каталіцкае Унівэрсытэцкае Помачы.

## З. Ш. А.

### Прыезд прэз. М. Абрамчыка.

У панядзелак 22 кастрычніка прыехаў з Парыжу ў Нью Ёрк прэз. М. Абрамчык, каб асабіста ўдзельнічаць на шостай сэсіі Рады БНР. Пры гэтай нагодзе ён мае на мэце адведаць важнейшыя беларускія цэнтры ў З.Ш.А. і ў Канадзе, а так-жа іншанацыянальныя палітычныя цэнтры.

## ФРАНЦЫЯ.

### На выдавецкай ніве.

У выданьні «Моладзі» нядаўна вышла брашура Л. Іскры — «Своеасаблівасьці беларускае мовы». Дастаць яе можна ў рэдакцыі «Моладзі».

### Хваля эміграцыі.

Падобна, як у мінулым годзе, масава эмігравалі ў заакіянскія краіны перамешчаныя асобы з Нямеччыны і Аўстрыі, так сёлета эмігруюць з Францыі. У выніку гэтага беларуская калёнія ў Францыі значна зьменшылася, а праз гэта і арганізацыйная праца значна прыціхла.

### ЗАКЛІК ДА БЕЛАРУСКАЕ ЭМІГРАЦЫІ.

Дарагія Суродзічы!

Ня раз ужо гаварылася і пісалася аб патрэбе насьпяваньня грамафонных дыскаў з беларускімі песьнямі, як дзеля карыстаньня самое эміграцыі, так і для прапагаваньня нашае нацыянальнае справы між чужынцамі.

Нашая беларуская і асабліва народная песьня, гэта ня толькі наш пэрсанальны скарб, — гэта таксама паказьнік глыбіні душы беларускага народу, паказьнік ягонае самабытнасьці.

Умовы эмігрцыі не зьяўляюцца вельмі спрыяльнымі для гэткага мерапрыемства. Тады калі існавалі ў нас выдатныя хоры ды ансамблі, ня было тэхнічных ці матэрыяльных магчымасьцяў насьпяваць грамафонныя дыскі. Цяпер-жа наша эміграцыя расьцярушана па розных краінах сьвету і цяжка знайсьці мейсца, дзе-б хапала фаховых сілаў і матэрыялу для зарганізаваньня хору. У сучасны мамэнт бадайшто найлепшыя ўмовы да гэткага мерапрыемства мае студэнцкая група ў Лювэне, дзе ўжо больш году працуе ды годна рэпрэзэнтуе Беларусь Студэнцкі Ансамбль Беларускае Народнае Песьні і Танцу, зарганізаваны і кіраваны ведамым кампазытарам праф. Міколам Равенскім.

Вось гэты Ансамбль і ўзяўся за нялёгкае заданьне — насьпяваць яшчэ ў гэтым годзе прынамся 6 грамафонных дыскаў. Зрэалізаваньне гэтага заданьня патрабуе даволі вялікіх грашовых сумаў, аднак пры падтрымцы нашых суродзічаў гэтае заданьне ёсьць поўнасьцю выканальным. Дзеля гэтага адміністрацыя Ансамблю пастанавіла правесьці падпіску між беларусаў ува ўсіх краінах расьсеяньньня на камплеты дыскаў. Першы камплет у колькасьці 6 дыскаў мае каштаваць каля 400 бэльг. фр. (8 амэр. даляраў) без перасылкі.

Ад эфэктыўнасьці падпіскі і будзе залежаць зьяўленьне дыскаў. Гэтаксама ахвяры і пазыкі маглі-б прысьпяшыць выкананьне намечанага пляну.

Мы зварочваемся да ўсіх грамадзкіх арганізацыяў і да кожнага беларуса паасобку, як найхутчэй правесьці падпіску на камплет дыскаў. Грошы просіцца высылаць на адрас:

M. Butrymovič, 19, Place Hoover, Louvain. Belgique.

Па дадатковыя інфармацыі зьвяртацца да Ул. Цьвірка (адрас той-жа, што і Бутрымовіча).

**Адміністрацыя Ансамблю.**

Gérant : D. Kucopej. Impr. de Navarre, 11, rue des Cordelières, Paris. Directeur : Abbé L. Horosco.

# Абразкі з жыцьця

## РЭХА НАВУЧЫЛА.

У высокіх горах жыла ўдава з сваім сынком. Аднойча яна так моцна пакарала сына, што той пабег на ўскрай пропасьці і адтуль пачаў гукаць да свае маці:

— Я цябе ня люблю! Я цябе ня люблю! — і тут-жа пачуў з другога боку пропасьці моцнае рэха: «Я цябе ня люблю!»

Зьлякаўся хлапчына голасу рэха і з плачам пабег да маці.

— Што там за паганец сядзіць на іншым боку пропасьці, што гукае: «Я цябе ня люблю!»

Маці, нічога ня кажучы, ўзяла сына за руку, павяла да таго самага мейсца над пропасьцю і кажа:

— Гукні цяпер: Я люблю цябе! Я люблю цябе! Хлапчына зрабіў так, як казала маці і рэха голасна паўтарыла ягоны кліч.

— Бачыш цяпер, мой сынку, — казала маці, бяручы яго на рукі, — ёсьць такое правіла ў жыцьці: што ты даеш, тое і атрымоўваеш назад.

Джэм Кэльлер.

## ЧАЛАВЕК І ПАРАДАК СЬВЕТУ.

Пасьля цэладзеннае працы бацька сеў чытаць газэту, але ягоны сын так шарлатаніў у хаце, што нельга было ніяк сабраць думак. Ня могучы ніяк супакоіць раздурэлага сына, уканцы бацька вырваў з газэты адзін ліст, дзе была карта сьвету, парваў яе на кускі і паклікаўшы сына да сябе, кажа:

— Вось маеш лепшую забаўку, як беганіну, папрабуй злажы гэтыя кускі, як сьлед.

На вялікае зьдзіўленьне бацькі, сын па некалькі хвілінах злажыў усю карту.

— Як-жа ты гэтак скора завінуўся?

— Ды гэта-ж так проста, — адказвае хлапец. — Вось на адвароце карты ёсьць вялікі абраз чалавека, дык я ўпарадкаваў чалавека і тым самым так-жа сьвет упарадкаваўся.

**Жыгімонт Нойман.**

## ДЗЕЯНЬНЕ ДОБРАГА ПРЫКЛАДУ.

Юнак, зьняверaны ўва ўсіх і ўва ўсё, пасьля бяссоннае, шалёнае ночы, прыпадкам зайшоў у прыдарожную капліцу і сеў у цёмным кутку на лаўцы, каб супачыць. Раптам адчыніліся дзьверы ў капліцу і туды хуткім крокам увайшла прыстойная дзяўчына, ды накіравалася проста да аўтара. Дайшоўшы да пярэдніх лавак, яна, злажыўшы пабожна рукі, з найбольшаю пашанаю ўкленчыла і пачала маліцца. Гэты шчыры выяў веры ў Хрыста, ўкрытага ў сьв. Эўхарыстыі, так падзейнічаў на юнака, што ў ім абудзілася даўно ўтрачаная вера.

## МАЛІТВА МАЦЕРЫ.

Маці аднаго жаўнера з Дэтройт (З.Ш.А.), выправіўшы свайго сына на Карэйскі фронт, штодня моліцца, каб яе сын вярнуўся здаровым дамоў. Калі яна аднойчы аб гэтым напісала сыну, а той ліст свае маці прачытаў сябром, дык некаторыя зьвярнуліся да яго, каб ён папрасіў сваю маці, маліцца так-жа за іх. Сёньня яна ўжо моліцца за 23 маладых жаўнераў, успамінаючы іх кожнага паіменна, так, як і свайго роднага сына.

## «УСЁ МАЁ НЯСУ З САБОЮ».

У VI веку перад Хрыстом войскі Кіра набліжаліся да гораду Прıен у Малой Азіі. Жыхары ў страху ўцякалі з гораду, нясучы з сабою найбольш каштоўныя свае рэчы. Толькі адзін філязоф Біяс ішоў спакойна з пустымі рукамі. Калі ягоны знаёмы спытаў яго, чаму з сабою нічога ня ўзяў, філязоф адказаў:

— Усё маё я нясу з сабою.

— Дык-жа ты нічога ня маеш, — заўважыў знаёмы.

— Маю ўсё тоё, што ёсьць сапраўды маё: веду і цноты. Іх у мяне ніхто не адбярэ. А тое, што вы нясяце, розныя клункі і грошы, у вас усёроўна адбяруць.

І сапраўды адзьдзелы Кіра хутка перанялі ўцекачоў і аграбілі іх да званьня.

## Ці ГЭТА НЯ ЗНАК?

Калі бальшавікі ў 1939 г. занялі Зах. Беларусь, дык, паслушныя іхняй прапагандзе, актывісты, спачатку стараліся выконваць ня толькі загады бальшавікоў, але нават і падшэпты. У вёсцы Збураж Берасьцейскае акругі дачка бышага царкоўнага старасты знайшлася ў ліку актывістых праз свайго мужа і першая атрымала заданьне падарваць павагу рэлігіі, зьнеслаўляючы сьвята. Дзеля гэтага яна ў нядзелю, ўзяўшы капачку і кошык на плечы, дэманстрацыйна прайшла праз вёску і вышла ў поле капаць бульбу. Ніхто за ёю больш не пайшоў, але дзіва, і сама яна доўга не пабыла на полі. Прыпадкамі параніла сабе ногу так, што мусіла вярнуцца дамоў. Дома рана аказалася больш паважная як спадзяваліся. Прышлося вязьці параненую ў Маларыцкі шпіталь. Міма гэтага, рана пачала гніць і першая бязбожная актывістка з вёскі мусіла пракачацца доўгія тыдні ў ложку, пакутуючы, як сама казала, за свой бязбожны выхад. Пасьля гэтага збуражцы пачалі шанаваць нядзелі і сьвяты лепш, чым перад тым.

---

## ПОШУКІ:

Міколу **Раецкага** нар. у 1928 г. у в. Пантусавічы, пав. Любча, які загінуў бяз весьці падчас эвакуацыі ў 1944 г., шукае брат Міхась Раецкі і просіць усіх, хто ведае аб ягоным лёсе адгукнуцца на адрас:

**Rajecki Michaś, Metro Water Supply, Kelmscott, West AUSTRALIJA.**